25 верасня 2020 | № 36 (695)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

Спартсменаў навучаць радзіму любіць
Стар. 11

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ
ISSN 2218-2144





# Яны могуць запалохваць, мы можам — усё!

Аксана КОЛБ

**Заканчваецца другі месяц пратэстаў. Хтосьці, можа, адчуў стому, а хтосьці — перастаў верыць. Дарэмна. Паглядзіце навокал.**

Кожны дзень да грамады сумленных дадаюцца новыя і новыя людзі. Кожны дзень хтосьці піша адкрыты зварот або ці проста звальняецца ў знак пратэсту. Кожны ранак, колькі б іх ні нявечылі, аднаўляюцца бел-чырвона-белыя сцягі, стужачкі, лавы, слупы, балонікі, прыступкі… чаго толькі ні ўбачыш у нацыянальных колерах. Кожны вечар які-небудзь двор ладзіць сваю імпрэзу. І кожную суботу і нядзелю на вуліцы Беларусі выходзяць найлепшыя людзі краіны. Сотні тысяч найлепшых людзей.

Прафесарка Гарвардскага ўніверсітэта Эрыка Чэнавет сцвярджае, што, калі ў негвалтоўных пратэстах удзельнічае не менш за 3,5% насельніцтва краіны, яны заўсёды маюць поспех. Таму для песімізму няма нават навуковых падстаў.

Напэўна, нам хацелася б, каб перамога была заўтра. Нам хацелася б, каб ужо ледзь не праз тыдзень мы зажылі ў іншай новай Беларусі. Так, канечне, бывае, але ў казках. Жыццё больш складанае і разнастайнае. Тое, што здарылася з Беларуссю, павінна было здарыцца, каб мы нарэшце расплюшчылі вочы.

Калі пад Акрэсціна я размаўляла з тымі, хто прайшоў праз пекла першых паслявыбарчых дзён, амаль усе пыталіся:

— Як думаеце, нешта зменіцца, гэта ўсё не дарэмна?

— Канечне, зменіцца, — адказвала ім. — Я 26 гадоў у гэта веру.

Сапраўды, 26 гадоў, калі пасля 10 ліпеня Беларусь атрымала Лукашэнку, мне было горка і сумна. Я злавалася на недальнабачнасць мільёнаў. На сябе, што мала каго змагла пераканаць. І яшчэ шмат на каго. Так, былі злосць і роспач. Але адчаю не было. Толькі надзея і вера ў тое, што ўсё будзе добра.

Можа, таму, што мне было ўсяго 26 гадоў, як тым хлопцам і дзяўчатам, што размаўлялі са мной ля Акрэсціна. А можа, таму, што і тады, і цяпер было ўнутранае адчуванне справядлівасці гэтага свету і таго, што дабро заўсёды перамагае.

Тое, што здарылася з нашай краінай пасля 9 жніўня, павінна было здарыцца, каб тыя, хто шмат гадоў не заўважаў, куды мы коцімся, нарэшце расплюшчылі вочы. Каб замест купкі «адмарозкаў», якім «няма чаго рабіць», на плошчы і вуліцы Беларусі выйшлі сотні тысяч.

Каб наш сцяг, ад якога так лёгка ўсе адмовіліся 25 гадоў таму, сёння стаў сімвалам нашай перамогі, сімвалам супраціву і новай Беларусі. Каб тыя, хто дасюль верыў дзяржаўнай беларускай і расійскай прапагандзе, нарэшце ўключылі мазгі.

Тое, што сёння адбываецца ў нашай краіне, праз колькі гадоў будуць вывучаць палітолагі ўсяго свету. Мы зламалі ўсе схемы. Мы парушылі ўсе палітычныя законы. І мы абавязкова пераможам. Бо яны могуць толькі запалохваць, а мы можам — усё!

На кожную навіну пра затрыманне і гвалт ёсць дзесяць гісторый пра салідарнасць і грамадзянскую пазіцыю. Гэта не можа не дадаваць аптымізму. Таму я веру, мой унук абавязкова будзе ганарыцца, што нарадзіўся ў найлепшай краіне свету — у Беларусі!

Марш новай Беларусі, салідарнасці, міра, адзінства, герояў, справядлівасці… Няма розніцы, як будзе называцца чарговы марш у чарговую нядзелю. Я веру, хутка мы ўбачым Марш пераменаў!


Фота Ірына Арахоўская


Фота Gazetaby.com


Фота Gazetaby.com


Фота Дзмітрый Дзмітрыеў

25 верасня 2020 | № 36 (695) Новы час

# «Гэта быў гвалт дзеля гвалту»

Алена ЛІТВІНАВА

**Максім Каралеўскі працаваў у Мінску ў IT-кампаніі. Яго затрымалі ў ноч з 11 на 12 жніўня, калі ён ехаў на ровары каля Палаца спорту. Кажа, што гэта адбылося каля апоўначы, калі не было ніякіх пратэстаў, а вуліца была пустой.**




Фота Радыё Свабода

Цяпер ён знаходзіцца ва Украіне — у Кіеў пераехала частка кампаніі, у якой ён працуе. Неўзабаве яна будзе зарэгістраваная ва Украіне, што дазволіць яму і ягоным калегам цалкам легалізавацца ў суседняй краіне.

У Кіеве ён наведвае акцыі салідарнасці з беларусамі. На адну з іх ён прыйшоў разам са сваім сабакам Осцінам. Ягоная котка Паліна засталася дома, у кіеўскай арандаванай кватэры. Максім кажа, што пераезд з гадаванцамі быў няпростым, але сваіх улюбёнцаў ён не мог кінуць. Ён — сірата, а ў Мінску ў яго засталася толькі бабуля, з якой ён цяпер штодня размаўляе праз «Вайбер».

Максім кажа, што яго гісторыя затрымання і знаходжання ў турме на Акрэсціна шмат у чым падобная на тысячы іншых.

«Гэты было беззаконне і катаванні, чыніўся фізічны, маральны і псіхалагічны ціск. Нас спачатку паставілі на калені на ноч, потым зачынілі ў тую прагулачную камеру — нас там было 127 асобаў. Нам не давалі вады, у нас не было ежы, было вельмі холадна, але ўсім на гэта было пляваць. Нас пастаянна абражалі, а за любы лішні рух або просьбу лёгка "прылятала" дручком. У адказ на просьбы пра адваката, справядлівы суд і нязгоду са зместам пратакола таксама маглі моцна пабіць».

З турмы на Акрэсціна яго вызвалілі на наступны дзень пасля прыезду туды намесніка міністра ўнутраных спраў Аляксандра Барсукова, без пратаколу і суда:

«У мяне ў асноўным былі сіняки, множныя гематомы на спіне, на нагах, на сцёгнах, на твары. Калі мяне затрымалі, мне выгалілі крыж на патыліцы. Я не ведаю і не разумею, навошта яны гэта зрабілі, бо ў мяне валасы не былі доўгія. Гэта быў проста гвалт дзеля гвалту. Мне таксама парэзалі шорты і загадалі разблакаваць тэлефон. Але яны зрабілі гэта самі, маім пальцам, бо мой тэлефон кіраваўся датчыкам ідэнтыфікацыі адбітку пальца».

Максім кажа, што пасля вызвалення пры дапамозе адваката яму ўдалося зафіксаваць збіццё:

«Я звярнуўся з заявай у Следчы камітэт аб незаконным затрыманні і збіцці. Мы з адвакатам змаглі ў Цэнтры судмедэкспэртызы задакументаваць збіццё, але на гэта ніяк не адрэагавалі. Няма ніякага руху ў гэтай справе, мяне не выклікалі і для дачы сведчанняў».

Апроч таго, кажа Максім, у яго скралі ровар і рэчы з заплечніка — велазамок і інструменты.

Максім Каралеўскі перасякаў мяжу на пачатку верасня, калі ўкраінскі ўрад ухваліў рашэнне аб закрыцці межаў у сувязі з эпідэміяй каронавіруса, пакінуўшы беларусам магчымасць уезду толькі «на гуманітарных падставах». Ён доўга шукаў магчымасць, каб выехаць разам з гадаванцамі, і лічыць, што яму пашанцавала.

«Вядома, гэта было няпроста, але я нізавошта іх не кінуў бы і зрабіў бы ўсё, каб мы паспяхова праехалі мяжу. Папраўдзе, на мяжы праблемаў не было — яны ў мяне выхаваныя, у маршрутцы ехалі спакойна, усю дарогу ляжалі адпачывалі. Мяжу мы прайшлі, бо ў нас усё-ўсё было — чыпы, вакцынацыя, пашпарты, даведкі... Больш праблемаў было, каб знайсці транспарт, і тут, у Кіеве, з пошукам кватэры, бо цяжка з такім "сямействам" шукаць жытло».

«Транспарт знайшоў праз інтэрнэт, змясціў фота са сваімі гадаванцамі, сказаў, што шукаю транспарт да Кіева, і ў адзін дзень, калі ўжо былі навіны пра тое, што ўкраінскі ўрад будзе садзейнічаць пераезду беларусаў, гэта было 3 верасня, я рашыўся на пераезд. У мяне было запрашэнне на працу, але на мяжы ў мяне пра яго не запыталі. Я паказаў толькі пашпарт і страхоўку, якая пакрывае COVID-19. Больш нічога не пыталіся. Гэта вельмі паспяховы выпадак, бо потым я чуў, што на мяжы пачалі прасіць пэўныя дакументы. Але мне пашанцавала».

Максім Каралеўскі спадзяецца, што ягоны пераезд ва Украіну будзе часовай з'явай.

«Я прыехаў сюды, каб свабодна выказваць свае думкі і каб не плаціць падаткі ўзурпатару ўлады. Калі зменіцца рэжым, я з радасцю вярнуся ў Беларусь, каб працаваць на новую краіну».

**Паводле Радыё Свабода**

# Некаторых збівалі так моцна, што сведкі кажуць — іх проста «забівалі»

**З моманту стварэння Міжнароднага камітэта па расследаванні катаванняў у Беларусі прайшоў месяц. Як прасоўваецца яго праца, распавёў адзін са стваральнікаў камітэта праваабаронца Сяргей Усцінаў.**

— Фармальна, камітэт быў створаны 20 жніўня, але функцыянаваць пачаў яшчэ раней, ужо з 11 жніўня валанцёры апытвалі пацярпелых людзей у медыцынскіх установах. За гэты час было апытана каля 300 чалавек. Мы апытваем не толькі пацярпелых, але і сведак. Нам важна задакументаваць усе выпадкі катаванняў і зразумець, што ж адбывалася ў тыя жудасныя для Беларусі дні.

***— Ці атрымліваецца вам аднавіць тую самую карціну падзей?***

— Не ўсе інтэрв'ю ўжо вывучаныя і прааналізаваныя, аднак ужо цяпер можна скласці нейкую карціну агульных паводзінаў сілавікоў у тыя дні і зрабіць выснову, што катаванні да хлопцаў ужываліся фактычна паўсюдна з моманту непасрэднага затрымання і да вызвалення. Некаторых збівалі так моцна, што сведкі кажуць пра тое, што іх проста «забівалі». Некаторыя літаральна адключаліся, але хуткую дапамогу выклікаць не спяшаліся, калі наогул выклікалі.

***— Збівалі толькі хлопцаў?***

— У асноўным так, калі абагульняць вывучаныя інтэрв'ю. Дзяўчат і жанчын імкнуліся не збіваць, але гэта не значыць, што да іх было чалавечае стаўленне. Што тычыцца агульнай сітуацыі ў Мінску, то жорсткаму і бесчалавечнаму абыходжанню падвяргаліся ўсе без выключэння. Калі казаць пра фізічнае ўздзеянне, то дастаткова ўспомніць жорсткія паставы, у якіх людзі вымушаныя былі стаяць на працягу доўгіх гадзін у РУУС і дворыках ЦІП. Рукі сцягвалі за спіной пластыкавымі сцяжкамі або кайданкамі, людзей прымушалі станавіцца на калені, пры гэтым лоб павінен быў упірацца ў падлогу. На самай справе, гэта вельмі цяжкая пастава, асабліва калі чалавек сядзіць у ёй працяглы час. Некаторых хлопцаў прымушалі паўзці на каленях з рукамі, сцягнутымі за спіной.

***— Якое стаўленне ў цэлым было да затрыманых?***

— Па сведчаннях апытаных, склалася такое адчуванне, што супрацоўнікі, якія затрымлівалі і катавалі людзей, наогул не ўмеюць размаўляць чалавечай мовай, толькі нецэнзурнымі словамі. Калі казаць пра стаўленне да затрыманых, то многія сыходзяцца ў адным — звярталіся як да быдла. «Пераменаў захацелі», «за Ціханоўскую галасаваў», «зараз мы вам пакажам перамены» — гэта самыя бяскрыўдныя словы, якія суправаджалі збіццё. Прыніжэнні, пагрозы згвалтаваннем, абразы па прыкмеце нацыянальнасці — гэта не поўны спіс жахаў тых дзён.

Таксама былі патрабаванні крычаць: «Я люблю АМАП». А за адмову — жорсткае збіццё. Адзначу, што ў 2014 годзе ва Украіне супрацоўнікі «Беркута» таксама прымушалі затрыманых крычаць: «Я люблю Беркут».

***— Так паводзілі сябе толькі супрацоўнікі АМАПу?***

— На жаль, не. Зыходзячы з расповедаў апытаных, унутраныя войскі стралялі ў людзей з 3–4 метраў, амаль ва ўпор, і кідалі святлашумавыя гранаты ў натоўп людзей. Самі супрацоўнікі ЦІП і іншых месцаў несвабоды таксама не выконвалі закон, некаторыя нават удзельнічалі ў збіцці. Да гэтага часу не зразумела, на якой падставе амапаўцы гаспадарылі на тэрыторыі таго ж ЦІП, але гэта ўжо пытанне да кіраўніка ўстановы.

***— У якім стане цяпер пацярпелыя людзі?***

— Многія наогул страцілі веру ў закон і правапарадак, некаторыя проста адчуваюць нянавісць і злосць, некаторыя — безвыходнасць ад таго, што следчыя органы не распачынаюць крымінальныя справы за ўсе гэтыя зверствы.

Усё, што я распавёў, — толькі малая частка абагульненай інфармацыі. Натуральна, наш камітэт зробіць поўную справаздачу, якую змогуць вывучыць усе ахвотныя.

Міжнародны камітэт па расследаванні катаванняў у Беларусі заклікае сведак і пацярпелых ад дзеянняў сілавікоў звяртацца для дакументавання і далейшага аналізу таго, што адбывалася падчас пратэстаў!

**Паводле legin.by**

# Як Probono.by дапамагае пацярпелым?

**Для дапамогі пацярпелым 15 жніўня пачаў працу валанцёрскі праект Probono.by — агрэгатар адкрытых ініцыятыў дапамогі пацярпелым.**

Валанцёрскі праект Probono.by — адзіны партал, агрэгатар адкрытых ініцыятыў дапамогі пацярпелым і тым, каму патрабуецца дапамога ў сувязі з затрыманнямі і арыштамі на мірных акцыях. У рамках гэтага праекта дзейнічае адзіны шматканальны кругласутачны кантакт-цэнтр. Калі патэлефанаваць па нумары + 375 44 709-79-11, то валанцёр дасць інфармацыю або звяжа вас з ініцыятывамі і спецыялістамі, гатовымі дапамагчы.

Варта адзначыць, што праект арганізаваны на валанцёрскіх пачатках — праваабаронцамі, прадстаўнікамі бізнесу і шматлікімі прыватнымі ініцыятывамі.

— Ідэя праекта вырасла з ініцыятывы адвакацкага кол-цэнтра. У першыя дні пратэстаў паўстала мноства прапаноў дапамогі пацярпелым — ад бясплатных медыцынскіх паслуг да аднаўлення машын — так што было складана не згубіцца ў гэтым патоку. Таму валанцёры вырашылі стварыць нейкі агрэгатар, куды б чалавек мог звярнуцца, — распавядае Яна Ганчарова, праваабаронца Human Constanta. — Абсалютна ўсё на добраахвотных асновах. Напрыклад, наладзіць кол-цэнтр нам дапамагалі прадстаўнікі бізнесу. Усё гэта цяпер працуе на голым энтузіязме людзей. Вядома, часам цяжкавата, але мы адчуваем, што гэта важна, і пакуль працягваем сваю працу.

Чым менавіта займаецца гэты агрэгатар? Калі коратка, то інфармацыйнай дапамогай. На сайце сабраныя ініцыятывы і інфармацыя па пошуку людзей, абароне правоў чалавека, у тым ліку на міжнародным узроўні, зборы грошай; інфармацыя пра адвакатаў; юрыдычная і праваабарончая, медыцынская і псіхалагічная дапамога; узоры і формы дакументаў па розных напрамках і гэтак далей. Усяго — больш за 250 ініцыятыў.

— З аднаго боку, мы дапамагаем знайсці неабходную дапамогу, а з другога — гэтую дапамогу аказаць, — тлумачыць Яна. — На нашым сайце сабраныя ўсе ініцыятывы, якія мы калі-небудзь сустракалі, знаходзілі, альбо якія звярталіся да нас самі і запаўнялі заяўку на далучэнне да праекта. І ў нас ёсць кантакт-цэнтр, куды можна патэлефанаваць.

Дапусцім, чалавек тэлефануе і кажа, што яму патрэбная медыцынская дапамога. Тут у нас ёсць некалькі варыянтаў. Па-першае, дапамогу могуць аказаць медцэнтры — мы пытаемся, з якога горада чалавек, і падбіраем яму варыянты. Па-другое, дабрачынны праект «Імёны» цяпер канкрэтна займаецца медыцынскай дапамогай — калі сітуацыя больш цяжкая. Мы дапамагаем на месцы запоўніць заяўку ў гэты праект і даем інфармацыю, якая дапамога яму можа быць аказана.

Праз некалькі дзён (як правіла, тыдзень) мы па магчымасці стараемся патэлефанаваць, удакладніць, ці атрымаў чалавек тую дапамогу, якую шукаў, і калі не, то дапамагаем знайсці іншы варыянт.

Яна падкрэслівае, што праект не займаецца наўпрост фінансавымі пераводамі — толькі паведамляе інфармацыю пра падобныя фонды. Валанцёры не просяць у тых, хто звярнуўся, якіх-небудзь пацвярджальных дакументаў — гэтым зоймуцца непасрэдна ў праектах. Не перадаюць інфармацыю трэцім асобам. І, вядома, Яна не можа цытаваць аповеды тых, хто да іх звярнуўся, але кажа, што некаторыя з іх «вельмі сур'ёзныя».

За месяц працы праект дапамог знайсці дапамогу не менш за 2500 чалавек, але зваротаў было больш. Спачатку паступала па 200 званкоў у дзень, цяпер іх колькасць знізілася да 100–150. Калі мы ўбачым, што колькасць тых, хто звяртаецца, знізілася, і адчуем, што ў гэтай дзейнасці больш няма сэнсу, то альбо закрыем ініцыятыву, альбо перафарматуем яе.

**Паводле 42.TUT.BY**

# «Я люблю фізіку і, можа, аднойчы атрымаю нобелеўскую прэмію»

Аксана КОЛБ

**Святлану Волчак, каардынатарку страйкама БДУ, звольнілі, але яна ні пра што не шкадуе і дзеліцца з чытачамі НЧ сваімі жыццёвымі прынцыпамі.**


Фота з фэйсбуку Святланы Волчак

Святлану і Міхаіла Волчакаў затрымалі 28 жніўня ў вёсцы Застружжа Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці ва ўласным прыватным доме, дзе яны рабілі рамонт. 31 жніўня суд Іванаўскага раёна адправіў іх на 15 сутак. 18 верасня Святлана даведалася, што яе звольнілі.

Для Святланы навіна пра звальненне была нечаканай і прыкрай. Перш за ўсё, таму, што яна вельмі любіць сваю працу. Але жанчына не губляе аптымізму і верыць: усё будзе добра.

***— Святлана, вас сапраўды звольнілі? Вы ўжо бачылі загад, якая прычына звальнення?***

— Так. Мне перадалі калегі. У суботу мая калега з прафкама ад нашага факультэта РФ і КТ (радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій) напісала ў чаце нашай кафедры фізікі і аэракасмічных тэхналогій пра тое, што мяне звальняюць. У пятніцу, 18-га верасня, яна была на сходзе прафкама БДУ, і там зачытваліся загад пра маё звальненне і мая тлумачальная запіска, чаму я адсутнічала на працы 14 верасня. Я сапраўды адсутнічала ў гэты дзень. 12 верасня мяне вызвалілі з ізалятара Іванава. 13-га я прыходзіла ў сябе пасля ўсяго. А 14-га паехала ў Мінск. На гэты дзень я папрасіла калегу мяне падмяніць на лабараторных работах. Гэта звычайная практыка. Можна дамовіцца з іншым выкладчыкам пра падмену, а потым падмяніць яго.

Але калі я прыйшла на працу 15 верасня, ад мяне запатрабавалі дзве тлумачальныя запіскі: дзе я была 2 тыдні і чаму адсутнічала 14-га. На два тыдні ў мяне была даведка з ізалятара. Я падрабязна апісала, што 14-га ехала на машыне, хуткасць якой 70 кіламетраў на гадзіну, адлегласць да Мінска — 350 кіламетраў, што заняло каля 5 гадзін разам з прыпынкамі на адпачынак. Тым не менш, 18 верасня перад прафкамам ставілася пытанне: ці дастатковая гэта прычына для маёй адсутнасці, на погляд чальцоў арганізацыі. Большасць, кажуць, прагаласавала, што не дастатковая. І гэтым прафкам пацвердзіў маё звальненне.

Загаду ніхто не бачыў, гэтак жа, як і пратаколу сходу прафкама. Сёння раніцай а 8.00 мае калегі (загадчык кафедры, дэкан і старшыня прафкама факультэта) напісалі хадайніцтва ў маю падтрымку і аднеслі кіраўніцтву, але, па іх словах, яно ўжо не мела вагі. І рашэнне пра маё звальненне нібыта прынятае.

**Марылася пра свежае паветра, пра вецер, пра дождж і сонейка. Верылася ў лепшае. Я імкнулася быць у добрым настроі і вучыцца новаму ад усіх людзей. Кожны на тваім шляху дае табе нешта новае, кожнае выпрабаванне дадае вартасці**

Мне прапанавалі, як варыянт, — звольніцца самой па згодзе бакоў. Але я вырашыла, што не буду гэтага рабіць.

***— Што вы адчулі, калі даведаліся пра такое звальненне? Чым збіраецеся займацца?***

— Перажывала шмат эмоцый. Спачатку, калі пачула пра звальненне, думала, што ўжо болей не змагу зусім аніяк працаваць. Потым, калі пабачыла падтрымку ад калегаў і іх жаданне напісаць хадайніцтва, што я каштоўны супрацоўнік, — гэта мяне падбадзёрыла, і падумала, што, калі яно будзе прынятае, то застануся. У выніку, канечне, уся гэта гісторыя запатрабавала досыць шмат часу і нерваў, і таму цяпер хацелася б адпачыць крыху. Паспрабую знайсці іншую працу. Я люблю фізіку, і жадаю папулярызаваць навуку, працаваць у фізічных лабараторыях і, можа, аднойчы атрымаю нобелеўскую прэмію. Жартую, хаця чаму б і не (смяецца).

***— Відаць, камусьці ў БДУ вельмі не хочацца, каб страйкам дзейнічаў. А ці былі для вас нечаканасцю затрыманне і тым больш адміністрацыйны арышт?***

— Пасля таго, як я бачыла навіны пра затрыманні актыўных удзельнікаў страйкамаў на заводах, я ўжо разумела, што мяне могуць таксама затрымаць. Але ўсе мае дзеянні былі адкрытымі і празрыстымі ў тэлеграм-групе. Усе дзеянні былі сумленнымі і шчырымі, і таму я спадзявалася на тое, што ўсё будзе добра. І мая адкрытая дзейнасць і камунікацыя з выкладчыкамі і студэнтамі стануць добрым прыкладам для сумеснай працы і калектыўнага прыняцця рашэнняў ва ўніверсітэтах. Аднак атрымалася інакш.

Але я ні пра што не шкадую. Я дзейнічала згодна з імператывам Канта: ва ўчынках кіруйся такім матывам, які б мог стаць усеагульным законам. Я бачу беларускае грамадства адкрытым, сумленным, справядлівым. Ну, і гэта толькі частка гісторыі. Я веру, што грамадзянская пазіцыя ў выніку прывядзе да больш усвядомленай грамадзянскай супольнасці.

***— Вядома, што мясцовыя жыхары вас з мужам вельмі падтрымлівалі. А што цяпер?***

— Так, сапраўды, нас вельмі падтрымлівалі. Нам перадавалі ежу і кнігі. Жыхары Іванава былі на судзе, а таксама сустракалі нас пасля сутак. Мы распавялі ім, гэтак жа, як і сябрам, пра нашы справы, пра тое, што адбываецца ў ізалятары. Гэта было вельмі прыемна і надзвычай каштоўна. З некаторымі мясцовымі жыхарамі мы пазнаёміліся, і я буду рада падтрымліваць з імі кантакт.

***— Распавядзіце пра ўмовы ўтрымання ў Іванава. Ці яны адрозніваюцца ад мінскіх ізалятараў?***

— У ізалятары Іванава, здаецца, 5 камер. Я была ў 4-й. Спачатку была адна. Даволі цяжка было першыя суткі адной ды без кнігаў. Прыходзілася ўключаць фантазію. Ежа была добрая, на мой погляд, і мне яе было дастаткова, хацелася болей садавіны, вітамінчыкаў (смяецца). У нейкі момант да мяне пачалі падсаджваць іншых жанчынак. І суседкі былі вельмі цікавыя. Некалькі жанчынак былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў. Згодна з нейкім 18-м дэкрэтам, яны мусяць працаваць на дзяржаўнай працы — і 70% іх зарплаты ідзе на ўтрыманне дзяцей. У дадатак, калі, на погляд іх кіраўніцтва, яны прапускаюць працу без паважлівай прычыны ці былі заўважаныя ў нецвярозым стане на працы, то іх забіраюць на суткі. Я пра такое не ведала.

Калі не глядзець на алкагольную залежнасць, то жанчынкі — прыемныя суразмоўцы, мне спадабалася з імі камунікаваць. І вельмі нечаканая для мяне было тое, што яны ў вельмі добрых адносінах са сваімі дзецьмі, нягледзячы на тое, што пазбаўленыя бацькоўскіх правоў. Напрыканцы тэрміну ўтрымання нас было пяцёра ў камеры.

Было цяжкавата дыхаць, бо ўсе астатнія пастаянна палілі. Мне прапаноўвалі прагулкі, і я была вельмі рада гэтаму, а жанчынкі нават не хацелі выходзіць, ім прыемней было сядзець паліць.

Было цікава іх слухаць, бо яны ведалі ўсіх супрацоўнікаў па імёнах і маглі пра іх распавесці розныя гісторыі. Іванава — невялікі горад, шмат хто адзін аднаго ведае.

***— Ці было вам страшна?***

— Было страшна спачатку, калі нічога не вядома. Таксама было не зразумела, ці вернуць тэхніку, таму што забралі тэлефон, ноўтбук, дрон і аўтамабіль, якія ніякага дачынення да справы не меў. У першы дзень увечары мяне таксама запрасілі ў нейкі кабінет, ужо пасля складання пратакола паводле адміністрацыйнага правапарушэння (1 п. 23.34 КоАП). І ў гэтым кабінеце запатрабавалі, каб я дала паролі ад тэхнікі, бо, маўляў, з яе маглі дасылацца пагрозы забіць супрацоўнікаў міліцыі. Я адмовілася даваць паролі і сказала, што ўсе мае дзеянні былі ў адкрытым чаце.

Канешне, за Міхася я таксама перажывала, бо не ведала і не бачыла, што з ім і як. Верыла і спадзявалася, што ўсё будзе добра.

***— Пра што думалася-марылася гэтыя 15 сутак?***

— Канечне, марылася пра свежае паветра, пра вецер, пра дождж і сонейка. Верылася ў лепшае. Я імкнулася быць у добрым настроі і вучыцца новаму ад усіх людзей, з якімі так ці інакш пазнаёмілася. Бо кожны на тваім шляху дае табе нешта новае, кожны ўчынак і кожнае выпрабаванне дадаюць табе вартасць як асобе.

***— Што можна зрабіць сёння кожнаму з нас, каб наблізіць змены, каб нарэшце паўстала новая Беларусь?***

— Трэба вывучаць прынцыпы пабудовы супольнасцяў, самакіравання, нефармальнага лідарства, прынцыпы адкрытага і празрыстага прыняцця рашэнняў у калектыве. Ведаючы ўсё гэта, людзі змогуць лепей разумець, як будуюцца і супольнасці дваroў, і супольнасці цэлай краіны, а ў далейшым актыўна прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай.


Фота з фэйсбуку Святланы Волчак
Святлана на RADA FORUM '19


Фота з фэйсбуку Міхаіла Волчака
Святлана і Міхаіл Волчак

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Легітымнасць — асобна, улада — асобна

## Гісторыя з мухамі і катлетамі выйшла на новы ўзровень

**Упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі склалася сітуацыя, калі рэпрэсіі не справакавалі ў грамадстве ступар, а выклікалі хвалю мабілізацыі ў адказ.**

Не кожны дзень простаму чалавеку выпадае магчымасць упісаць яркую старонку ў гісторыю новай Беларусі. Дачцэ адной маёй старой знаёмай такая магчымасць выпала. Аднак яна ёю не скарысталася. А патрабавалася тады ад яе зусім дробязь: у працоўны час і бясплатна наведаць канцэрт заслужанага артыста Расіі і ўладальніка Ордэна Францыска Скарыны Мікалая Баскава.

Чаму ж дачка маёй знаёмай адмовілася прамяняць звычайны працоўны дзень у дзіцячым садку на мерапрыемства, якое змяшчае два ў адным (ці то форум у шоу, ці то шоу ў форуме)? Прычыну яе адмовы варта шукаць у непаўнаце інфармацыі, якую прадставіла загадчыца дзіцячага садка.

Заслужаны педагог з саракагадовым стажам пра канцэрт Мікалая Баскава праінфармаваў, а пра форум, на якім чакалася выступленне адзінага палітыка (АП), праінфармаваць не адважыўся. А хто ж у 25-гадовым узросце ды ў здаровым розуме праз увесь горад паедзе слухаць натуральнага бландзіна?!




### Ідэальная затычка да кожнай ідэалагічнай бочкі

9 жніўня стала мяжой, што падзяліла гісторыю Беларусі на «да» і «пасля таго». Праілюструю гэту трансфармацыю старым савецкім анекдотам.

Эвалюцыя расійскіх марксістаў за сто гадоў. Канец XIX стагоддзя. На стале «Капітал», пад сталом — бутэлька. Стук у дзверы. «Капітал» — пад стол, бутэльку — на стол. Сярэдзіна XX стагоддзя. На стале стаіць бутэлька, пад сталом — «Капітал». Стук у дзверы. Бутэльку — пад стол, «Капітал» — на стол.

У педагогаў — людзей, залежных ад дзяржавы, — ёсць адна важная перавага перад калегамі па няшчасці. Ведаю пра гэту перавагу з жыцця, а не з навуковых манаграфій, бо ўжо 21 год жыву з педагогам у законным шлюбе.

Адсутнасць педагога на працы — гэта вам не адсутнасць лекара. Адчуваеце розніцу? Таму педагог — ідэальны кандыдат на ролю затычкі да кожнай ідэалагічнай бочкі. Мая каханая, напрыклад, спецыялізавалася на наведванні хакейных матчаў з удзелам самі разумееце каго.

Важны педагагічны нюанс: падчас восеньскіх, зімовых і вясновых канікул педагог абавязаны з'яўляцца ў школу. Канікулы — для вучняў, а не для настаўнікаў. Але што настаўніку рабіць у школе без вучняў? Увосень ён зграбае лісце, зімой — снег, вясной — сабачае лайно і іншае смецце, што назапасіліся за зіму. Кваліфікацыі для гэтых відаў работ чалавеку з вышэйшай адукацыяй хапае.

За наведванне ідэалагічных хакейных матчаў, якія, як правіла, праводзяцца па выхадных, запланаваныя адгулы. Вакацыі — выдатны час для іх прадастаўлення.

Час падвесці прамежкавы вынік. Да 9 жніўня адміністратар, што ўгаворваў педагога выканаць ролю зацікаўленага гледача, напіраў на яго свядомасць. «Пасля таго» ён вымушаны хаваць сапраўдную сутнасць мерапрыемства. Гісторыя з эстрадным бландзінам — яскравы таму прыклад.

### А суддзі хто і якія крытэры?

Але вернемся на «Мінск-Арэну», дзе жанчыны-працаўніцы, жанчыны-патрыёткі і проста прыгажуні, якіх завабілі паглядзець на прыезджага тэнара, упісвалі «яркую старонку ў гісторыю новай Беларусі».

У чым яе навізна? Мабыць, толькі ў тым, што АП не прыняў удзел у працы форуму, а незапланавана яго наведаў. Ён выступаў другім нумарам, саступіўшы першынства тэнару, які і сабраў «усе кветкі».

Нібы герой рамана «Яўген Анегін», АП прыбыў на форум з карабля (з вучэнняў «Славянскае братэрства–2020») на баль. Але ён быў у курсе таго, што адбываецца на эстрадзе: «Літаральна праз кожныя 20–30 хвілін мяне інфармавалі пра ход вашага форуму. Я разумеў, што не паспею на гэта вялікае дзейства. І вырашыў хаця б тэлеграму вам накіраваць. Потым стэлефанаваўся ў апошні раз, мне кажуць: ды не, мы яшчэ шумім! Так я прыняў рашэнне: па шляху пераапрануўся і прыехаў на гэты форум, каб сказаць вам літаральна некалькі словаў».

Словы, натуральна, былі пра галоўнае — пра немагчымасць «фальсіфікаваць выбары ў 80%». Гэта значыць, у 79% можна, а ў 80% нельга. Такая вось нацыянальная асаблівасць фальсіфікацый.

Для яе разумення дастаткова зайсці на сайт ЦВК і параўнаць інфармацыю пра вылучэнне прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій з канчатковымі звесткамі пра іх склад. Абмяжуюся некалькімі прыкладамі: Беларуская аграрная партыя вылучыла 576 чалавек, з якіх былі ўключаныя ў камісіі 574 (99,7%). Аналагічныя паказчыкі для Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці склалі 1294 і 1256 (97,1%).

А цяпер звернемся да паказчыкаў апазіцыйных партый: Аб'яднаная грамадзянская партыя — 212 і 0 (0,0%), Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) — 224 і 3 (1,3%), Партыя БНФ — 109 і 3 (2,8%).

Не ўпэўнены, што такая статыстыка адпавядае маральнаму кодэксу будаўніка камунізму. Аднак мы не будуем камунізм. Мы будуем краіну, зручную для жыцця, і найважнейшай умовай такога будаўніцтва з'яўляецца падзел беларусаў на першагатунковых і ўсіх іншых.

А суддзі хто і якія крытэры для траплення ў шэрагі першагатунковых? Усіх суддзяў не пералічу, але правa аддзяляць збожжа ад пустазелля на тэрыторыі рэспублікі-партызанкі далі, у прыватнасці, старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай. А яна неяк сказала: «На жаль, так склалася, што ў нас у апазіцыю ідуць часцяком людзі азлобленыя, нездаволеныя. І калі яны прыходзяць у той ці іншы калектыў, то яны ствараюць вельмі цяжкую, нервовую абстаноўку. Гэта і вядзе, уласна кажучы, да адмовы ўключэння тых ці іншых людзей».

Здавалася б, прыведзеныя словы старшыні ЦВК павінны былі б зацікавіць шматлікіх работнікаў праваахоўных органаў. Аднак па незразумелых мне прычынах тыя не спяшаюцца заняцца справай, на якую вучыліся і за якую ім грошы плацяць.

Але я адышоў ад тэмы. На «Мінск-Арэне» тым часам Баскаў скончыў выводзіць свае рулады, а АП свой выступ толькі распачаў: «Я вам клянуся, ніякай хлусні на выбарах не было».

Клянецца чалавек. Як жа яму не паверыць? Аднак тут ёсць нюанс, які людзям свецкім у поўнай меры недаступны, але які адпавядае ўзроўню разумення інтэлектуалаў з ліку праваслаўных атэістаў. Клятвазлачынства — адзін з найбольш ганебных відаў хлусні. Ісус Хрыстос забараняў даваць клятвы наогул: «Я кажу вам: не прысягай зусім: ні небам, бо яно — трон Божы; ні зямлёю, бо яна падножжа ног Яго; ні Ерусалімам, бо ён горад вялікага Цара; ні галавою тваёю не прысягай, бо не можаш ніводнага воласа зрабіць белым або чорным» (Евангелле ад Матфея, 5, вершы 33-37).

### Усе астатнія — самазванцы

Свой унёсак у падзел найноўшай гісторыі Беларусі на «да» і «пасля таго» зрабілі паказальныя масавыя рэпрэсіі. Аднак — у адрозненне ад мінулых гадоў — рэпрэсіі не штурхнулі грамадства ў ступар, а выклікалі хвалю мабілізацыі ў адказ. Упершыню ў найноўшай гісторыі склалася сітуацыя, калі рэпрэсіі вядуць да выдаткаў, што пераўзыходзяць выйгрыш ад іх выкарыстання.

«Жорсткае і дэманстратыўна несправядлівае ўжыванне рэпрэсій, — тлумачыць сацыёлаг Таццяна Варажэйкіна, — гэта хутчэй прыкмета слабасці аўтарытарнага рэжыму і ўсё больш відавочнага вычэрпвання таго сацыяльнага кантракту, на якім ён грунтаваўся ў першыя паўтара дзесяцігоддзі свайго існавання. Улада адчувальна губляе здольнасць да кааптацыі насельніцтва».

Канцэнтруючы дзяржаўныя даходы для падкормкі сілавых структур, улада звужае свае магчымасці падтрымліваць сацыяльны кантракт з насельніцтвам на ранейшым узроўні, што негатыўна адбіваецца на яе легітымнасці. Атрымліваецца, як у вядомай гісторыі з мухамі і катлетамі: легітымнасць — асобна, улада — асобна.

Але калі ўлада губляе, то грамадства набывае, і спіс яго набыткаў узначальвае здольнасць да самаарганізацыі. Учарашні маўклівы суб'ект пачынае ўсведамляць, што, згодна з артыкулам 3 Канстытуцыі, акрамя грамадства іншай крыніцы дзяржаўнай улады і носьбіта суверэнітэту ў краіне няма. Усе астатнія — самазванцы.

Сяргей ПУЛЬША

# «Рэжым Лукашэнкі не зможа задушыць пратэставы рух»

**Цэнтр палітычнай адукацыі апублікаваў аналітычную справаздачу па падзеях, якія прайшлі з часу выбараў, і да сённяшняга дня. Доўгатэрміновы (і нават сярэднетэрміновы) прагноз для Лукашэнкі і яго атачэння несуцяшальны.**

«Верагодна, у сувязі з умовамі надвор'я, халодным часам, у акцыях пратэсту будзе ўдзельнічаць меншая колькасць людзей. Аднак рэжым Лукашэнкі атрымае толькі часовы перадых. Ён не зможа задушыць пратэставы рух, а вялікія выдаткі на ўтрыманне сілавікоў, ад адданасці якіх залежыць, ці ўтрымае Лукашэнка ўладу, будуць спрыяць паглыбленню эканамічнага крызісу. Перад рэжымам Лукашэнкі зноў паўстане пагроза выступаў калектываў прадпрыемстваў з палітычнымі патрабаваннямі і пагроза праяваў нелаяльнасці з боку чыноўнікаў», — гаворыцца ў дакуменце.


Фота Дзмітрый Дзмітрыеў



Фота Дзмітрый Дзмітрыеў

### Матэрыяльная зацікаўленасць і страх — галоўныя фактары лаяльнасці

Пратэставыя акцыі працягваюцца ўжо больш за месяц. І для сілавікоў, і для чыноўнікаў у такой сітуацыі становіцца відавочным — Лукашэнка прайграў прэзідэнцкія выбары. Магчыма, у першыя дні пасля выбараў, яны разважалі так, як казаў міністр унутраных спраў Юрый Караеў: мы прадстаўляем большасць, якая прагаласавала за Лукашэнку, дзейнічаем супраць агрэсіўнай меншасці, абараняем цывілізацыю ад разбурэння. Цяпер яны наўрад ці маюць такія ілюзіі.

Затрыманыя ў ноч з 9 на 10 жніўня ўдзельнікі акцый пратэсту сказалі, што з кожным днём да іх ставіліся з усё большай жорсткасцю: сілавікі чакалі, што ўсё скончыцца ў адну ноч. Не скончылася.

Пачынаючы з 16 жніўня па нядзелях у Мінску на вуліцы выходзяць сотні тысяч. Кожны дзень сілавікам даводзіцца выязджаць для разгону акцый, для таго, каб зрываць бел-чырвона-белыя сцягі і стужкі, зафарбоўваць графіці. І з кожным днём у іх усё больш такой «працы», якая сведчыць пра тое, што Лукашэнкам незадаволеная ўся краіна.

Верагодна, Лукашэнка ацаніў перамену ў настроях сілавікоў і чыноўнікаў. Цяпер ён купляе лаяльнасць ці застрашвае.

Супрацоўнікі МУС кажуць: ім даводзяць, што ў выпадку змены ўлады многія з іх, так ці інакш датычныя да рэпрэсій, трапяць у турмы, у іх канфіскуюць уласнасць. Лукашэнка і Шэйман (ёсць падставы меркаваць — каардынатар дзеянняў сілавых структур з траўня 2020 года) прыклалі намаганні, каб да фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і да рэпрэсій мелі дачыненне як мага больш чыноўнікаў і сілавікоў. Лукашэнка таксама заяўляў, што ў выпадку праяваў нелаяльнасці чыноўнікаў, сілавікоў будзе караць за здраду.

Страх і матэрыяльная зацікаўленасць — гэтыя фактары могуць быць эфектыўнымі ў кароткачасовай перспектыве. Аднак у доўгатэрміновай перспектыве яны неэфектыўныя. Новыя, папулярныя лідары апазіцыі могуць прапанаваць гарантыі, што чыноўнікі і сілавікі, якія не здзейснілі злачынстваў, не будуць прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці, і, што важна для іх, захаваюць уласнасць.

### Грошы для сілавікоў

Напярэдадні выбараў і пасля іх Лукашэнка значна павялічыў фінансаванне сілавых структур. У жніўні 2020 года супрацоўнікі міліцыі, якія звольніліся ў знак пратэсту, паведамлялі, што міліцыянту, які браў удзел у падаўленні акцый пратэсту, плацілі 1000 беларускіх рублёў за кожны дзень «працы» (блізу 407 USD, гэта амаль месячны сярэдні заробак у Беларусі). Месячная зарплата супрацоўнікаў АМАПу (колькасць каля 1500 чалавек) у месяцы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў была даведзена да 5000 беларускіх рублёў (2032 USD па стане на жнівень).

У пачатку верасня ў сацыяльных сетках сваякі былых жонак супрацоўнікаў АМАПу паведамілі, што ў жніўні амапаўцы плацілі аліменты ад 2 да 4 тысяч рублёў у залежнасці ад пасады і звання. Згодна з заканадаўствам, аліменты складаюць 25% ад месячнай зарплаты. Адпаведна, месячныя заробкі супрацоўнікаў АМАПу ў жніўні склалі ад 3248 да 6500 USD.

У разгоне акцый пратэсту бяруць удзел вайскоўцы брыгады ўнутраных войскаў спецыяльнага прызначэння, якія маюць параўнальную з АМАПам падрыхтоўку і параўнальную з АМАПам колькасць, супрацоўнікі іншых спецыяльных падраздзяленняў, якія маюць больш высокую падрыхтоўку, чым супрацоўнікі АМАПу (іх колькасць — не больш за 200 чалавек у кожным падраздзяленні): контртэрарыстычны атрада КДБ «Альфа», спецпадраздзяленне МУС «Алмаз», спецатрад хуткага рэагавання (САХР) МУС. Менш актыўны ўдзел у падаўленні акцый пратэсту прынялі шэраг вайсковых падраздзяленняў: дыслакаваная ў Брэсце дэсантна-штурмавая брыгада, дэсантна-штурмавая брыгада, якая дыслакуецца ў Віцебску (былі перакінутыя ў Мінск і Гродна). У Мінск была ўведзеная бронетэхніка дыслакаванай каля Мінска механізаванай брыгады. Імаверна, былі павялічаныя заробкі афіцэрскаму складу і кантрактнікам гэтых падраздзяленняў.

Калі дадаць сюды выдаткі на праўладныя мітынгі (праезд і харчаванне) ды замену беларускіх супрацоўнікаў тэлебачання расійскімі спецыялістамі з Russia Tuday (2000 USD заробак, плюс пражыванне, плюс арэнда тэхнікі), то ўтрыманне дзяржаўнага апарата становіцца больш вялікім цяжарам для эканомікі Беларусі.

### Пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі — рост пратэставых настрояў

У першыя дні пасля выбараў калектывы многіх дзяржаўных прадпрыемстваў выступілі з патрабаваннямі спыніць гвалт з боку сілавікоў, правесці свабодныя прэзідэнцкія выбары і патрабавалі адстаўкі Лукашэнкі.

Пасля перамоваў з адміністрацыямі гарадоў і прадпрыемстваў рабочыя вярнуліся да працы. Але на многіх прадпрыемствах былі звольненыя найбольш актыўныя рабочыя і чальцы страйкавых камітэтаў. Многія з іх потым былі затрыманыя, трапілі ў следчыя ізалятары.

Гэта дае Лукашэнку толькі часовы перадых. Пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі пацягне рост пратэставых настрояў і ў тым сацыяльным асяроддзі, якое, бачачы выбар паміж заробкам і свабодай, выбрала першае.

Да хвалі рэпрэсій Беларусь мела дастаткова спрыяльныя магчымасці для рэфінансавання знешняга доўгу і атрымання крэдытаў для падтрымкі эканомікі. Беларускі бок вёў перамовы з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, у тым ліку з МВФ, аб атрыманні крэдытаў на агульную суму больш за 3 мільярды USD. Пагаршэнне адносін з Захадам самым негатыўным чынам адбілася на магчымасцях рэфінансавання знешняга доўгу і атрымання крэдытаў. 10 верасня МВФ адмовіў Беларусі ў выдзяленні 940 мільёнаў USD «для падтрымкі эканомікі ва ўмовах пандэміі». Фармальнымі падставамі былі названыя нежаданне кіраўніцтва Беларусі праводзіць эканамічныя рэформы і невыкананне рэкамендацый СААЗ.

Адмова МВФ, а таксама ўсё больш змрочныя ацэнкі і прагнозы стану беларускай эканомікі з боку заходніх і незалежных беларускіх эканамічных аналітыкаў будуць сігналамі і для іншых міжнародных фінансавых арганізацый, з якімі беларускі бок вёў перамовы аб прадастаўленні крэдытаў.

### Пагроза дэфолту

За жнівень 2020 года залатавалютныя рэзервы (ЗВР) Беларусі скараціліся на 1 мільярд 399,6 мільёна USD (на 15%) і склалі на 1 верасня 7 мільярдаў 457 мільёнаў USD. Гэты ўзровень ЗВР дазваляе аплачваць імпарт толькі на працягу двух месяцаў. Атрыманне крэдыту з боку Расіі ў памеры 1,5 мільярда USD не вырашае праблемы, улічваючы тэмпы скарачэння ЗВР.

У 2020 годзе Беларусь (маецца на ўвазе дзяржава, без уліку прадпрыемстваў і банкаў) павінна выплаціць па знешніх даўгах 3,838 мільярда USD. Каля паловы гэтай сумы (каля 1,419 мільярда USD) трэба будзе выплаціць у другой палове 2020 года. У 2021 годзе Беларусь павінна выплаціць па знешніх пазыках больш за 3 мільярды USD.

Перад Беларуссю ўзнікае пагроза крызісу неплацяжоў для прадпрыемстваў: па выніках першай паловы 2020 года ВУП Беларусі скараціўся на 1,7%. Запаволенне эканамічнай актыўнасці ва ўмовах пандэміі выклікала рост дэвальвацыйных чаканняў у насельніцтва.

Палітычная нестабільнасць спрыяла гэтай тэндэнцыі. Людзі забіраюць свае ўклады з банкаў, пераводзяць рублі ў долары і, чакаючы горшых часоў, захоўваюць грошы дома. Паводле Нацбанка, агульны аб'ём дэпазітаў фізічных асоб у рублях на 1 верасня 2020 года склаў 4 мільярды 653,3 мільёна рублёў. Гэта на 270,8 мільёна менш, чым у папярэднім месяцы. Жнівеньскае зніжэнне аказалася самым буйным у гэтым годзе. Аб'ём дэпазітаў у валюце на 1 верасня склаў 5 мільярда 146,6 мільёна USD. У параўнанні з пачаткам года аб'ём дэпазітаў у валюце скараціўся амаль на 1,7 USD.

Эканамісты адзначаюць, што скарачэнне магчымасцяў прадпрыемстваў атрымліваць крэдыты за мяжой і скарачэнне банкаўскіх укладаў насельніцтва (такім чынам, скарачэнне рэсурсаў банкаў) можа прывесці да крызісу неплацяжоў для прадпрыемстваў.

Да таго ж, улады заціснулі IT-сферу — ды так, што многія кампаніі перавозяць супрацоўнікаў у іншыя краіны. Але, паводле словаў міністра эканомікі Беларусі Дзмітрыя Крутога, IT-сфера была галоўным драйверам эканамічнага росту апошнія сем гадоў, а доля IT-паслуг у агульнай структуры ВУП вырасла да 6,5%. Таму эміграцыя айцішнікаў пацягне вялікія страты для эканомікі Беларусі.

Высновы з гэтага дакладу кожны можа зрабіць сам. Працягваючы карміць сілавікоў і падкупляць лаяльнасць дзяржслужбоўцаў, ва ўлады вельмі хутка скончацца грошы. Аж да таго, што многія прадпрыемствы папросту спыняцца. І тады ўжо на вуліцы выйдуць не студэнты з кветкамі, а працоўныя. І што будзе ў іх руках — вялікае пытанне.

Гэтыя часы могуць настаць даволі хутка.

# Маўчанне пад страхам ШІЗА: як хварэюць на COVID-19 у турмах Беларусі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Што вядома пра выпадкі каронавіруса ў месцах зняволення? Як пенітэнцыярная сістэма змагаецца з інфекцыяй? І якія наступствы для эпідэміялагічнай сітуацыяй мелі паслявыбарчыя арышты?**

А хвяры паслявыбарчага «хапуна» распавядалі мноства гісторый пра тое, што ў ізалятары на Акрэсціна ў Мінску колькасць людзей у камерах шматкроць перавышала тую, на якую яны былі разлічаныя. На супрацьэпідэміялагічныя меры там ніхто не звяртаў увагі. І калі на ўчастках для галасавання ўвялі абмежаванні для незалежных назіральнікаў, то ў ізалятары нікога не цікавіла, што сацыяльная дыстанцыя не вытрымліваецца, а сродкаў індывідуальнай абароны няма.

Таму не выклікаюць здзіўлення сведчанні людзей, якія захварэлі на каронавірус пасля вызвалення. Колькі такіх выпадкаў — вызначыць немагчыма, як і тое, які маштаб набыло распаўсюджванне інфекцыі пасля затрыманняў актывістаў.




Акцыя «Мая камера», арганізаваная вязнямі ЦІП на Акрэсціна на плошчы Перамогі ў Мінску 22 жніўня. Экс-арыштанты намалявалі на асфальце контуры камеры, разлічанай на 6 чалавек, і ўсталі туды разам, у колькасці 50-і вязняў, як і было на самай справе

## Праваабаронца: пасля затрыманняў — новая ўспышка хваробы

Пенітэнцыярная сістэма Беларусі абсалютна закрытая, атрымаць інфармацыю аб эпідэміялагічнай сітуацыі ў месцах зняволення не могуць не толькі праваабаронцы, але і сваякі асуджаных, не гаворачы ўжо пра шырокую грамадскасць.

Васіль Завадскі, кіраўнік праваабарончай арганізацыі «ТаймАкт», якая канцэнтруецца на абароне правоў людзей у турмах, са спасылкай на свае крыніцы распавядае, што затрыманні людзей на акцыях пратэсту ў эпідэміялагічным плане не прайшлі бясследна для некаторых месцаў пазбаўлення волі. Вядома, што многіх адміністацыйна затрыманых звозілі ў пенітэнцыярныя ўстановы, напрыклад, у ЛПП пад Слуцкам, калоніі ў Івацэвічах і Бабруйску, СІЗА №8 у Жодзіна. Паводле інфармацыі праваабаронцы, пасля гэтага ў калоніі №5 у Івацэвічах паўторна палыхнуў каронавірус. Вядома, што як мінімум тры лакальныя ўчасткі, кожны з якіх уключае па два атрады, цяпер закрытыя на каранцін праз інфекцыю. Гэта прыкладна чацвёртая частка калоніі.

— Кожны дзень адтуль вывозяць людзей у дрэнным стане, самі асуджаныя не ведаюць, куды. Маці аднаго са зняволеных сказалі, што іх адвозяць у Баранавічы ў цывільную бальніцу, бо ў Івацэвічах шпіталь вельмі маленькі. Даволі шмат людзей вывозяць на штучную вентыляцыю лёгкіх. Але ў мяне ёсць спадзяванне, што грамадзянская медыцына прыйдзе на дапамогу, бо яна ўжо мае і досвед, і тэхніку, і спецыялістаў.

Васіль Завадскі перакананы, што змяшчэнне вялікай колькасці людзей у маленькія памяшканні, як гэта адбывалася пры затрыманнях, нясе высокую рызыку распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі, дый іншых інфекцый таксама, на волі пасля іх вызвалення.

## «Сістэма закрылася»

Арганізацыі «ТаймАкт» з самага пачатку пандэміі каронавіруса ў Беларусі звярталася ў Дэпартамент выканання пакаранняў з запытамі аб сітуацыі з COVID-19 у беларускіх пенітэнцыярных установах, а таксама з прапановамі дапамогі. Васіль Завадскі, сам у мінулым турэмны лекар, нават гатовы быў зноў пайсці працаваць у месцы пазбаўлення волі, паколькі медыкаў у гэтай сістэме катастрафічна не хапае нават пры адсутнасці эпідэміі.

— Але сістэма, як звычайна, закрылася, прыходзілі адказы, што ўсё ідзе згодна з планам і ніякіх праблемаў не існуе. Таксама мы прапаноўвалі публікаваць прэс-рэлізы хаця б некалькі разоў на месяц з інфармацыяй пра тое, што адбываецца. Калі ўсё добра — напішыце, што ўсё добра.

Без адказу засталіся адкрыты ліст арганізацыі «ТаймАкт», а таксама зварот да кіраўніцтва Дэпартамента выканання пакаранняў, накіраваны 3 красавіка па электроннай пошце.

Не маючы доступу да афіцыйных звестак, праваабаронцы знаходзяць інфармацыю пра сітуацыю з каронавірусам у турмах ад сваякоў асуджаных, а таксама з іншых крыніц, якія не хочуць раскрываць.

— Безумоўна, выпадкі былі ў розных установах. Але складана гаварыць пра тое, ці рабілася наогул дыягностыка. Вядома, што хварэлі і супрацоўнікі, і зняволеныя, але ці быў гэта каронавірус, ці рабіліся абследаванні — мы такога не ведаем. Але, дзякуй Богу, лятальныя выпадкі калі і былі, то яны не былі масавымі. Але мы бачым, што робіцца на волі, калі чалавека хаваюць пад тым ці іншым дыягназам, таму няма падставаў думаць, што ў зняволенні сітуацыя адрозніваецца, — гаворыць Васіль Завадскі.

## Інфекцыя трапляе ў месцы няволі пераважна праз супрацоўнікаў

Суразмоўца распавёў, як хварэюць людзі на зоне. Падчас сваёй практыкі ён заўважыў адну асаблівасць, прыроду якой яшчэ трэба даследаваць: ёсць калоніі, дзе амаль ніхто не хварэе, а ёсць такія, дзе хварэюць амаль усе.

— Я працаваў у калоніі ў Навасадах на 2 000 чалавек. У медчасткі там можна было размясціць максімум 40 чалавек. Ну, можна «ўвапхнуць» 60. А хварэюць — 1500. Таму яны хварэюць па атрадах. Калі нешта цяжкае — могуць вывезці ў рэспубліканскую ці грамадзянскую бальніцу. Было такое, што, калі шмат хварэлі ў атрадзе на грып, мы прыходзілі і раздавалі лекі, каб людзі не хадзілі і не разносілі інфекцыю. Я думаю, што ў сітуацыі з каронавірусам механізм не будзе моцна адрозніваца, адзінае, што хвароба можа працякаць значна цяжэй і патрабаваць спецыяльнай дапамогі. Напрыклад, на ўсю пенітэнцыярную сістэму Беларусі ўсяго 1-2 апараты ШВЛ. Ясна, што ў звычайных калоніях іх няма, а калі б і былі, то няма спецыялістаў, якія ўмелі б імі карыстацца.

Васіль Завадскі кажа, што ў закрытыя пенітэнцыярныя ўстановы вірус трапляе пераважна праз супрацоўнікаў. Традыцыйныя каранцінныя мерапрыемствы — забарона спатканняў і спыненне этапаванняў — могуць зменшыць рызыку траплення інфекцыі хіба на 10% са 100%. Бо супрацоўнікі ўсё роўна працягнуць хадзіць дадому, наведваць грамадскія месцы, а потым будуць вяртацца ў калоніі.




**Многіх затрыманых звозілі ў ЛПП пад Слуцкам, калоніі ў Івацэвічах і Бабруйску, СІЗА №8 у Жодзіна. Паводле інфармацыі праваабаронцы, пасля гэтага ў калоніі №5 у Івацэвічах паўторна палыхнуў каронавірус**

«Новы Час» папрасіў спецыяліста пракаментаваць захады, якія ўжывалі некаторыя краіны, каб не дапусціць распаўсюджвання COVID-19 у турмах, — гаворка ідзе пра датэрміновае вызваленне альбо перавод пад хатні арышт.

— Мы такія прапановы ўносілі. Якраз быў закон аб амністыі прыняты — ну, давайце, хутчэй рэалізуйце гэты закон! Гэта не спыніла б інфекцыю — усё роўна гэтыя людзі прыйшлі б у грамадства. Але гэта такі акт гуманнасці: у месцах пазбаўлення волі людзі, безумоўна, не маюць такога доступу да медычнай дапамогі, як на волі. Але з боку рэжыму — уладаў у нас няма — стаўленне да чалавека праяўляецца на ўсіх узроўнях, і зняволеныя тут на апошнім месцы.

Гэтым жа Васіль Завадскі тлумачыць і забарону асуджаным пад страхам ШІЗА распавядаць сваякам пра эпідэміялагічную сітуацыю ў месцах зняволення.

## Хаваць звесткі пра сітуацыю з COVID-19 — незаконна

У Беларусі папраўчыя калоніі закрылі для наведванняў у сярэдзіне сакавіка. Гэта ўскладніла доступ да дакладнай інфармацыі аб сітуацыі з COVID-19 у месцах зняволення, бо родныя маглі звязвацца з асуджанымі толькі па тэлефоне, праз які немагчыма было перадаць нейкія звесткі: супрацоўнікі слухаюць і не даюць нешта сказаць. Праваабаронца Вікторыя Фёдарава ў каментары «Новаму Часу» зазначыла, што гэта незаконна, паколькі парушае права на доступ да інфармацыі, гарантаванае артыкулам 34 Канстытуцыі.

З лістоў, якія сваякі атрымлівалі з некаторых калоній, можна было зрабіць выснову, што перахварэла шмат людзей, але ў асноўным — у лёгкай форме. У прыватнасці, пра гэта падчас анлайн-сустрэчы казалі актывісткі руху «Маці 328», чыіх дзяцей асудзілі па «наркатычным» 328 артыкуле Крымінальнага кодэкса.

Паводле словаў адной з актывістак, якую завуць Жанна, у калоніі №13 (знаходзіцца ў Глыбокім Віцебскай вобласці) напачатку распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі было выдзелена памяшканне для людзей з прыкметамі ВРВІ.

Што тычыцца астатніх калоній, жанчына падкрэсліла, што гэтыя звесткі — са словаў і не маюць стопрацэнтнай дакладнасці. І там напачатку таксама выдзялялі асобныя памяшканні, куды змяшчалі меркавана хворых на каронавірус, а пасля перасталі гэта рабіць і пакідалі іх у атрадах, але проста

не давалі кантактаваць: напрыклад, не выпускалі ў прамзону, а проста пакідалі ў памяшканні, і так у іх праходзіў каранцін.

Па словах жанчыны, у Гродна на жаночай «хіміі» быў выпадак, калі дзяўчына захварэла, у яе ўзялі аналіз, а пасля гэтага зрабілі тэсты ўсім асуджаным — аказалася, што ўся «хімія» была заражаная каронавірусам, але ўсе перанеслі яго ў лёгкай форме. Маці асуджаных звязваюць гэта з тым, што, у асноўным, сядзяць досыць маладыя людзі.



Лекары, якіх выклікалі ў ЦІП на Акрэсціна

### Праваабаронцам вядома пра адну смерць зняволенага меркавана ад каронавіруса

Праз цяжкасці з доступам да інфармацыі доўгі час не было вядома пра тое, ці ёсць у калоніях ахвяры каронавіруса. Аднак у ліпені праваабаронцы змаглі высветліць, што ў магілёўскай ПК-15 малады хлопец, меркавана, з 14-га атрада, памёр у медізалятары прыкладна праз два тыдні пасля выяўлення сімптомаў прастуды. Аднак адміністрацыя ў заключэнні аб смерці напісала дыягназ «сардэчная недастатковасць». Многія з тых, хто працаваў разам з памерлым, таксама падхапілі хваробу, сімптомы якой нагадвалі COVID-19.

Улічваючы, што асуджаныя жывуць у памяшканнях на 18-25 чалавек (усяго ў калоніі адбываюць тэрмін прыкладна 2700 чалавек), вірус распаўсюдзіўся імгненна. Досыць вялікая колькасць зняволеных прызналіся сваякам, што перахварэлі нейкім прастудным захворваннем, ад якога часова знікаў нюх, аднак тэст на каронавірус ім не рабілі.

Дзякуючы працы ў ПК-15 камісіі па амністыі адтуль выпускаюць на волю досыць шмат людзей — некалькі дзясяткаў у тыдзень. Вярнуўшыся дадому, адзін з былых вязняў зрабіў платны аналіз на каронавірус, і ў яго былі выяўленыя антыцелы. Гэта значыць, што, будучы ў калоніі, ён усё ж перахварэў.

Яшчэ адна актывістка руху «Маці 328» Марына Уладыка распавядала, што ў папраўчай калоніі №3 (Віцьба) некалькі атрадаў былі на каранціне, але пра COVID-19 забараняли казаць пад страхам ШІЗА. Былі захворванні і ў іншых калоніях: ПК-15 (Магілёў), ПК-2 (Бабруйск), ПК-4 (жаночая калонія, Гомель), ПК-3, ПК-13.

Маці распавядалі, што калі ўсе сталі шыць ахоўныя маскі, зняволеныя ў калоніях таксама пачалі гэта рабіць, яны працавалі ў тры змены, але заробкаў за гэта не атрымалі.

З пачаткам пандэміі асуджаным былі прадугледжаны дадатковыя прадуктовыя перадачы вагой да 10 кг. На месяц вязням дазволена было дасылаць «каранцінную» пасылку з пяці найменняў: цыбуля, часнок, яблыкі, апельсіны, лімоны, а таксама вітаміны. А вось у ізалятары часовага ўтрымання (у прыватнасці, у Мінску) з прычыны каронавіруса нейкі час адмаўляліся прымаць перадачы, але ў сярэдзіне чэрвеня прыём перадачаў аднавілі. Іх можна перадаваць праз вакно, у пальчатках і абавязкова — у масках.

**У папраўчай калоніі №3 (Віцьба) некалькі атрадаў былі на каранціне, але пра COVID-19 забаранялі казаць пад страхам ШІЗА. Былі захворванні і ў іншых калоніях: ПК-15 (Магілёў), ПК-2 (Бабруйск), ПК-4 (жаночая калонія, Гомель), ПК-3, ПК-13**

Кароткатэрміновыя спатканні ў пенітэнцыярных установах Беларусі аднавіліся з 1 жніўня. У Дэпартаменце выканання пакаранняў МУС Беларусі адзначылі, што своечасовае абмежаванне наведванняў і прыпыненне спатканняў дазволілі мінімізаваць пагрозу распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі ў падведамасных установах.

Паведамляецца, што цяпер санітарна-эпідэміялагічная сітуацыя ў калоніях і ЛПП стабільная і знаходзіцца пад кантролем. Аднак патрабаванні пра выкананне ўсіх неабходных прафілактычных мерапрыемстваў захоўваюцца. У прыватнасці, наведвальнікі, якія прыходзяць на кароткатэрміновыя спатканні, павінны быць у масках. Асоб з тэмпературай або відавочнымі сімптомамі рэспіраторнага захворвання на тэрыторыю ўстановы не пускаюць. Забаронены і пропуск грамадзян, якія адмаўляюцца вымяраць тэмпературы.

# Каронавірус і месцы пакарання ў свеце

**У большасці краін Еўропы меры па прадухіленні распаўсюду каронавіруса былі прынятыя аператыўна. Яны ўключалі найперш вызваленне часткі зняволеных, а таксама забеспячэнне іх сродкамі абароны і дэзынфекцыі. Аднак у шмат якіх краінах каронавірус у турмах стаў значнай праблемай.**



Папраўчая калонія №2 ў Бабруйску

### Калумбія

Турмы перанаселеныя ў сярэднім на 48%. Але ёсць перанаселеныя і на 200, 300 і 500% (Рыахача, Картахена, Калі).

З-за страху перад каронавірусам у 13 турмах былі спробы масавага ўцёкаў, у некаторых ладзілі пажары. У Багаце падчас бунту загінулі 23 зняволеныя і 83 атрымалі раненні.

Толькі пасля гэтага з турмаў пачалі часова вызваляць людзей. На хатні арышт накіравалі 10 850 зняволеных. Гэта цяжарныя, жанчыны з дзецьмі да трох гадоў, людзі, старэйшыя за 60 гадоў, смяротна хворыя і асуджаныя менш чым на 5 гадоў, якія адбылі больш за 3/5 свайго тэрміну. Але пасля заканчэння эпідэміі ўсе гэтыя людзі павінны вярнуцца ў турму.

### Іран

Каронавірус моцна ўдарыў па Іране. Каб не перагружаць лекараў працай у турмах, на волю выпусцілі больш за 85 тысяч зняволеных. Іх адпускалі толькі пасля адмоўнага выніку тэсту на каронавірус і ўнясення закладу.

Нягледзячы на вялікую колькасць вызваленняў, зняволеныя зладзілі бунт і ўцёкі ў турме Парсілон у Харэмабадзе, на захадзе краіны. Дзвесце пяцьдзесят зняволеных паспрабавалі збегчы. Ахоўнікі і сілы бяспекі адкрылі па іх агонь, многія зняволеныя былі забітыя. У горадзе было абвешчана ваеннае становішча.

### Егіпет

Апазіцыйны рух «Батэль» запатрабаваў вызвалення больш за тысячу лекараў і медыцынскіх работнікаў, каб дапамагчы ў барацьбе з COVID-19.

### Бразілія

Максімальная ёмістасць турмаў у краіне складае 437 912 чалавек, але ў цяперашні час у зняволенні змяшчаецца не менш за 729 949 чалавек.

Улады не хочуць прызнаваць смерці ад каронавіруса, таму не праводзяць пасмяротныя тэсты зняволеным. А цяпер іх дазволілі хаваць без пасведчання аб смерці. Так улады змогуць распраўляцца з непажаданымі і прызнаваць людзей зніклымі.

У турмах дзеецца сапраўдны хаос. У штаце Сан-Паўлу з розных турмаў збегла больш за 1300 зняволеных. Толькі невялікую частку ўдалося злавіць.

Пасля беспарадкаў у Сан-Паўлу вызвалілі 5 тысяч чалавек. Але гэта кропля ў моры, якая ніяк не выправіць становішча.

### Кітай

Выпадкі заражэння каронавірусам у турмах прызналі і нават пакаралі некаторых чыноўнікаў. Пад лячэнне зняволеных вылучалі асобныя памяшканні і частку гарадской бальніцы.

### Італія

Адпусцілі больш за 10 тысяч зняволеных. За імі сочаць з дапамогай электронных бранзалетаў. Адмянілі прысуды тым, хто парушыў рэжым датэрміновага вызвалення.

З-за забароны на спатканні ў турмах пачаліся беспарадкі. У турме Санта-Ана ў Мадэне пачаліся пажары, а рабочых узялі ў закладнікі. Салдаты і карабінеры былі вымушаныя акружыць турму, каб прадухіліць уцёкі зняволеных. Падчас бунту загінулі 9 зняволеных, але ў асноўным з-за перадозу наркотыкаў пасля рабавання лячэбнага пункту.

### Кенія

Турма Industrial Area prison знаходзілася ў строгай ізаляцыі. Нікога не прапускалі ўнутр, нават звонку да аб'екта падыходзіць забаронена. Супрацоўнікі турмаў і іх сем'і, якія пражываюць у турэмным комплексе, пратэставалі супраць гэтага рашэння.

### Бельгія

Зняволеныя пратэставалі, палілі матрацы, адмаўляліся вяртацца ў камеры. Падчас падаўлення пратэстаў трое ахоўнікаў былі параненыя. Пасля гэтага іх калегі зладзілі страйк, чым толькі пагоршылі сітуацыю.

Журналісты звязваюць такое непадпарадкаванне з адсутнасцю наркотыкаў у зняволеных. Да адмены спатканняў наведвальнікам атрымоўвалася перадаваць наркотыкі ў турму, цяпер гэта нездзяйсняльнае. Зняволеныя становяцца некіраванымі.

### Венесуэла

Зняволеныя з Эль-Атыльа накіравалі ў асацыяцыю Una Ventana a la Libertad фота і відэа (без vpn не адкрыецца), якія сведчаць пра жудасныя ўмовы і пра разбураныя камеры. Яны сказалі, што турэмныя службоўцы заварылі дзверы камеры, каб трымаць іх зачыненымі. Зняволеныя паведамлялі пра цяжкасці з дыханнем, а некаторыя нават гублялі прытомнасць.

### ЗША

Спынілі візіты сваякоў і адвакатаў, адклалі пераводы паміж турмамі і навучанне зняволеных, адмянілі судовыя слуханні. Злучаныя Штаты рэкамендуюць паліцыянтам праводзіць менш арыштаў. У ЗША частка турмаў прыватныя, таму абмежаванне арыштаў і ўспышкі інфекцыі могуць моцна ўдарыць па іх бюджэце.

### Мексіка

А ў Мексіцы зняволеныя ўзмоцнена шыюць маскі для сябе і на карысць Радзімы.

# Катаваць, каб кіраваць

Алег НОВІКАЎ

**Чаму словы «дыктатура» і «катаванні» даўно ўжо стаяць поруч?**

Для таго, каб глабальна пачаць ужываць палітычны гвалт, шмат часу для раскачкі не трэба. У прыватнасці, пасля перавароту ў Чылі катаванні ў дачыненні да прыхільнікаў Альендэ пачаліся ледзь не адразу — і набылі фармат сярэднявечных пакаранняў. Група балівійскіх навукоўцаў, якая цудам выратавалася ад путчыстаў, казала, што бачыла ў памяшканнях сталічнага стадыёна (цэнтра, дзе ўтрымліваліся працiўнікі дыктатуры) абезгалоўленыя чалавечыя целы, трупы з прабітымі жыватамі, жанчын з адрэзанымі грудзьмі...



Фота www.regnum.ru

Па ходзе фарміравання дыктатарскага рэжыму ахвярамі катаванняў часта становяцца спецыфічныя групы насельніцтва, якія патэнцыйна могуць чыніць супраціў. Відавочна, што ў такім выпадку для рэжыму важна псіхалагічна зламаць гэтую катэгорыю, прымусіць яе прадстаўнікоў адмовіцца ад актыўнай дзейнасці ў будучыні. Такая задача, падаецца, была пастаўленая перад аргенцінскімі жаўнерамі, якія пасля перавароту ў 1974 годзе арганізавалі сапраўдные сафары на моладзь. Ваенныя лічылі, што моладзь у Аргенціне «палітычна страчаная» з-за яе левых поглядаў. Усяго за восем гадоў існавання ваеннай хунты кожны дзень «знікалі» ў сярэднім дзесяць чалавек. Пры гэтым 42 працэнты «зніклых» былі ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў.

Пасля арыштаў падлеткаў або маладых людзей, як правіла, дастаўлялі ў турмы, дзе патрабавалі назваць імёны саўдзельнікаў і расказаць, хто быў кіраўніком іх групы. Пры гэтым ніякіх груп у рэальнасці нават не існавала. Многія распавядалі, што падчас катаванняў іх аблівалі вадой і білі токам, у тым ліку ў дзёсны і палавыя органы. Паводле ўспамінаў, у камеры час ад часу прыходзіў палкавы капелан, які тлумачыў вязням, што іх расстраляюць гэтай ноччу. І вязняў сапраўды ўначы выводзілі на імітацыю расстрэлу.

**Палітолагі канстатуюць, што найбольш небяспечная сітуацыя ў плане катаванняў у тых краінах, дзе дыктатарам з'яўляецца асоба, што раней ужывала гвалт. Гвалт, напрыклад, стаў звычкай для Садама Хусейна яшчэ да прыходу да ўлады, калі ён служыў у ролі аператыўніка службы бяспекі**

Часам катаванні выкарыстоўваюцца не адрасна, а проста супраць усіх, хто мае праблемы з законам. Так, шматлікія сірыйскія экс-зняволеныя апісваюць, што па прыбыцці ў мясцовых «крэсціна» ім арганізавалі «вечарыну вітання» — рытуал, які прадугледжваў жорсткае збіццё, часта з выкарыстаннем сіліконавых альбо металічных стрыжняў.

Нарэшце, некаторыя катаванні ў дыктатарскіх краінах настолькі незвычайныя і арыгінальныя, што міжволі ўзнікае думка пра ментальныя дэвіяцыі мясцовых сілавікоў, якія катуюць, каб проста катаваць. Уцекачы з той жа КНДР распавялі пра незвычайнае «галубінае катаванне». Праводзіцца яно так: чалавеку звязваюць рукі і прыкоўваюць іх да перакладзіны так, каб няшчасны не мог ні сесці, ні ўстаць. Дзень знаходжання ў падобнай позе прыводзіць да таго, што грудзі чалавека выгінаюцца і становяцца падобнымі да птушыных.

Яшчэ адна пакута, пра якую распавядаюць паўночныя карэйцы, — калі на вязня накідваюць коўдру і прымушаюць прысядаць 500 разоў. Былы ахоўнік паўночнакарэйскага лагеру Ан Мёнчхоль у сваіх артыкулах для службы навін Daily NK паведамляў, што для таго, каб выбіць з жанчын-вязняў паказанні, ім пускалі ў похву змей. Таксама варта ўзгадаць, што ў КНДР, калі верыць некаторым крыніцам, катаванні вельмі часта з'яўляюцца публічнымі, каб відавочна напужаць звычайных людзей, далёкіх ад палітыкі.

А вось у суседняй КНР вырашылі нічога не прыдумляць. Замест гэтага тут пастанавілі адрадзіць некаторыя сярэднявечныя практыкі катаванняў. Напрыклад, нашэнне драўлянага хамута. Хамут уяўляе сабою маленькую дошку даўжынёю ад 30 да 50 сантыметраў і шырынёю 10–15 сантыметраў. Усярэдзіне хамута зробленыя адтуліны для ног. Ахвяра, на якую надзеты хамут, з цяжкасцю перамяшчаецца. Яна не можа нармальна ні хадзіць, ні стаяць. Без старонняй дапамогі чалавек з хамутом не здольны нават схадзіць у прыбіральню.

З іншага боку, адсутнасць фізічных катаванняў таксама можа быць катаваннем — пры адпаведным унутраным парадку ў турэмнай установы. Шмат экс-вязняў туркменскіх зонаў для дысідэнтаў распавядаюць пра камбінацыю ў мясцовых турмаў дрэнных умоваў: перанаселенасць, недахоп харчавання і медыцынскай дапамогі з недастатковай колькасцю санітарна-гігіенічных установаў. У выніку людзі ад адсутнасці ежы і моцнай ізаляцыі (усяго сем хвілінаў шпацыру на тыдзень) вельмі хутка гублялі годнасць і паступова адмаўляліся ад сваіх поглядаў.

Нарэшце, палітолагі канстатуюць, што найбольш небяспечная сітуацыя ў плане катаванняў у тых краінах, дзе дыктатарам з'яўляецца асоба, што раней ужывала гвалт. Гвалт стаў звычкай для Садама Хусейна яшчэ да прыходу да ўлады, калі ён служыў у ролі аператыўніка службы бяспекі і бязлітасна разбіраўся з мясцовымі «адмарозкамі». Прыхільнасць да катаванняў толькі ўзмацнілася, калі ён стаў дыктатарам. Таму Іраку за часамі Хусейна адбываліся жудасныя рэчы. У Багдадзе была так званая «трунавая турма», дзе зняволеных утрымлівалі ў металічных кантэйнерах. 100–150 такіх кантэйнераў адкрывалі на паўгадзіны ў дзень, каб упусціць у іх крыху святла і паветра. У гэтых кантэйнерах вязні павінны былі знаходзіцца да таго часу, пакуль не прызнаюцца ў сваіх злачынствах. Тыя, хто не прызнаваўся, паміралі.

Дарэчы, амерыканцы, якія вызвалілі Ірак ад Хусейна, пазней пазычылі ў зрынутай ім дыктатуры метады пакаранняў. Напрыклад, практыка прыпальваць палавыя органы цыгарэтай падчас допытаў была вельмі папулярная сярод амерыканскіх турэмшчыкаў. Напэўна, гэта дазваляе казаць, што аматары катаванняў ёсць паўсюль. Але таксама ёсць і іншы відавочны факт: калі дзяржава робіць гвалт законным інструментам або часткай лакальнай сістэмы пакаранняў, узровень жорсткасці да ўласных грамадзян рэзка ўзрастае.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Працягваецца тая ж рыторыка, нібыта Беларусь і спадара Лукашэнку атачаюць ворагі. Гэта класічная мадэль таталітарных лідараў — калі ёсць унутраныя праблемы, то трэба шукаць ворагаў звонку. У працяглай перспектыве занепакоенасць выклікае паглыбленне ваеннай інтэграцыі Расіі і Беларусі. Мы чулі пра паскоранае стварэнне Саюзнай дзяржавы. Важна, якімі будуць наступствы ў ваенным сэнсе. Сітуацыя будзе ўскладняцца, калі ўзнікнуць манеўраныя сілы Расіі ў Беларусі».

**Delfi (Літва)**

«Умяшанне Масквы ў справы Украіны пасля 2014 года зрабіла больш для ўмацавання нацыянальнай ідэнтычнасці ўкраінцаў і росту антырасійскіх настрояў, чым любыя іншыя дзеянні на працягу папярэдніх 25 гадоў. Беларусы імкнуцца перш за ўсё да таго, каб мець права на палітычны выбар у сваёй краіне. Калі яны адчуюць, што Пуцін зацягвае іх у пастку аўтарытарызму, тады Крэмль ператворыць цяперашняе паўстанне, прычынай якога раней не была арыентацыя Беларусі на Усход ці на Захад, якраз у такога кшталту працэс».

**Financial Times (Вялікабрытанія)**

«Польшча прапануе праграму для Мінска, якая ўключае вылучэнне Еўрасаюзам сродкаў на аднаўленне беларускай эканомікі і адкрыццё еўрапейскага рынка. Гэтым разам у праекту няма геапалітычнага гучання: у ім не згадваецца пагадненне аб асацыяцыі Беларусі з ЕС, а тым больш не маецца прапанову наконт перспектывы сяброўства. Польшча, з аднаго боку, не хоча правакаваць Расію, а з другога — спадзяецца такім чынам схіліць падтрымаць Мінск найбольш скептычна настроеныя краіны еўрапейскай супольнасці».

**Rzeczpospolita (Польшча)**

«Цяпер Расіі прадставіўся шанец завяршыць працэсы, якія ёй не ўдавалася завяршыць на працягу цэлых 20 гадоў з-за ганарыстасці Лукашэнкі. Палітолагі называюць гэта "мяккім аншлюсам". Пра тое, чаго на самай справе больш за ўсё хацела б Масква, магчыма, кажа выдатны падарунак да дня нараджэння. 31 жніўня Лукашэнка атрымаў яго на сваё 66-годдзе з рук расійскага пасла Мезенцава. Ён перадаў кнігу 1856 года выдання са старымі картамі, дзе беларускія губерні пазначаныя ў складзе царскай імперыі. Кажуць, Лукашэнка шчыра ўзрадаваўся падарунку».

**DenikN, (Чэхія)**

«ЗША і Еўрасаюз не павінны мірыцца з тым, што ў Беларусі забіраюць яе лепшую дэмакратычную будучыню. Трамп павінен папярэдзіць Лукашэнку, што, калі той не пагодзіцца прызначыць новыя выбары, будуць уведзеныя новыя санкцыі. Трэба таксама папярэдзіць і Пуціна. Калі ён адправіць у Беларусь расійскія сілы бяспекі, каб абмежаваць дзеянні беларускага народа і ўсталяваць над ім кантроль, у дачыненні да расійскага энергетычнага комплексу будуць уведзеныя новыя санкцыі».

**Washington Examiner, (ЗША)**

«Беларускае кіраўніцтва будзе вымушанае ісці на пэўныя палітычныя рэформы, таму што крытычную грамадскую думку і вулічную актыўнасць трэба будзе нейкім чынам інкарпараваць у сістэму прыняцця дзяржаўных рашэнняў. Рэформы непазбежныя, але беларускае кіраўніцтва шукае прымальны фармат гэтых рэформаў, канстытуцыйны фармат, праз рэферэндум, парламенцкі фармат. Беларусь у любым выпадку ўжо не будзе суперпрэзідэнцкай рэспублікай, якой яна была раней».

**Ukraina.ru (Расія)**


Фота AP

# Калі тыраны былі багамі

Алег НОВІКАЎ

**Гісторыя ведае шмат выпадкаў, калі дыктатары абвяшчалі сябе багамі, чараўнікамі і звышнатуральнымі асобамі.**

Аўтарытарныя палітыкі невыпадкова любяць такія інстытуты, як рэлігія або ўзброеныя сілы. Бо ў іх закладзены элемент жорсткай вертыкалі і іерархіі: хтосьці аддае загады, а іншыя абавязаныя іх выконваць. Але, з іншага боку, з той жа царквой у дыктатараў часта здараліся праблемы. Царкоўная арганізацыя мае свой апарат, традыцыю, канцэпцыі. Таму цяжка ўявіць сабе, што яе кіраўніцтва пагодзіцца прызнаць божую прыроду нейкага сатрапа. У такой сітуацыі тыранам даводзілася прыдумляць уласныя рэлігіі. Далей за ўсіх пайшоў у гэтым плане італьянскі дыктатар Беніта Мусаліні.

Мусаліні быў прызначаны на пасаду прэм'ер-міністра ў 1922 годзе. Яшчэ за некалькі гадоў да таго ён быў вядомым, але ўсяго толькі журналістам, — і такі сацыяльны ліфт не мог не закружыць яму галаву. Ужо сам прыход да ўлады разглядаўся Мусаліні як знак Божы. З'явілася ідэя, што пабудаваная на фашысцкай дактрыне дзяржава зможа вырашыць усе праблемы краіны — і адначасова стварыць новы тып чалавека.

Заставалася толькі запусціць працэс інстытуцыяналізацыі фашысцкай рэлігіі. У перыяд з 1925 па 1939 год чатыры партыйныя сакратары дучэ асабіста адказвалі за распрацоўку нейкай квазірэлігійнай дагматыкі. У яе аснове была чакана закладзена сляпая адданасць правадыру. «Заўсёды майце веру ў дучэ. Мусаліні даў вам вашу веру. Усё, што кажа дучэ, праўда. Словы дучэ не падпадаюць крытыцы. Кожную раніцу пасля малітвы прамаўляеце: "Я веру ў Мусаліні"», — інструктаваў італьянцаў адзін з прыдворных ідэолагаў.

Таксама важна адзначыць, што фашысцкая Італія лічыла сябе пераемніцай старажытнага Рыму, дзе імператар вельмі часта ўважаўся за Бога. Таму не дзіўна, што ў рамках станаўлення культу Мусаліні той хутка стаў эквівалентам найвялікшых імператараў Рыма, накшталт Цэзара або Аўгуста. У выніку Мусаліні сам паверыў гэтай версіі і ўсур'ёз сцвярджаў, што «з'яўляецца калі не далёкім сваяком, то рэінкарнацыяй імператара Аўгуста».

Тое, што дучэ з'ехаў з глузду наконт ідэі, што ён — новы Аўгуст, не дзіўна — з улікам патоку дыфірамбаў, якія чуў дыктатар. У афіцыёзе Мусаліні не саромеючыся называлі эквівалентам Макіявелі, Напалеона, Сакрата, Платона, Мадзіні, Гарыбальдзі, святога Францыска Асізскага, Хрыста, прарокам і нават самім Богам-бацькам! Адзін з прапагандыстаў пісаў, што «глядзець на яго [Мусаліні] было ўсё роўна, што глядзець на сонца: ты бачыш не чалавека, а, хутчэй, велізарны струмень прамяністых вібрацый з эфіру». Неўзабаве быў прыняты закон, згодна з якім слова «дучэ» трэба было пісаць выключна з вялікай літары.

Важным складнікам новага рэлігійнага культу было адмаўленне старых рэлігій. Сам Мусаліні спачатку рашуча выступаў супраць Ватыкана. «Мы ерэтыкі. Мы разарвалі на кавалкі ўсе адкрытыя ісціны, мы плюнулі на ўсе догмы, адкінулі ўсе райскія шаты, высмеялі ўсіх шарлатанаў — чырвоных, белых і чорных, — якія прадаюць цудадзейныя лекі, каб даць чалавецтву шчасце», — казаў ён.

Аднак свае сілы фашысты відавочна пераацанілі. Тактычна для барацьбы з камуністамі ім патрэбна была падтрымка Касцёла, які, у сваю чаргу, таксама імкнуўся не канфліктаваць з новым рэжымам. І Ватыкан не пралічыўся. Адным з першых дзеянняў Мусаліні на пасадзе прэм'ер-міністра было вяртанне выяваў распяцця ў школьныя класы і залы судовых пасяджэнняў. Гэтыя царкоўныя атрыбуты былі знятыя ў часе нядоўгай спробы Італіі аддзяліць царкву ад дзяржавы. У 1926 годзе пачаліся таемныя перамовы з Рымскім Папам, якія на пачатку 1930-х гадоў скончылася падпісаннем «канкандарту». Паводле дамовы, Італія прызнала Ватыкан у якасці незалежнай краіны, а каталіцызм быў прызнаны італьянскай рэлігіяй.

З улікам таго, што каталіцызм застаўся асноўнай рэлігіяй італьянцаў, эксперымент са стварэннем фашысцкай рэлігіі відавочна страціў дынаміку. Веру ў Мусаліні давялося нейкім чынам інтэграваць у хрысціянскую тэму. Напрыклад, моладзевую секцыю фашысцкай партыі ў 1931 годзе абвясцілі «ваяўнічай і місіянерскай». Як пісаў тады сакратар руху фашысцкай моладзі, «рух Мусаліні пераняў метады тых пантыфікаў, біскупаў і місіянераў, якія валодалі мячом і крыжам, і выкарыстоўвалі нават катаванні і атруту ў імя ўлады і славы Царквы».

Але ідэя фашысцкай рэлігіі страціла перспектыву. Акрамя таго, нават самыя заўзятыя вернікі Мусаліні прызнавалі, што людзей у лепшым выпадку «прыцягвала сапраўды яскравая асоба дыктатара, а не вера ў каштоўнасці і догмы фашысцкай рэлігіі». Канчатковую кропку ў спробе стварыць новую рэлігію паставілі партызаны, якія ў 1944 годзе забілі і павесілі за ногі «рэінкарнацыю імператара Аўгуста».

У нейкім плане напрацоўкі дучэ развіў Гітлер, які ў 1936 годзе пасля мілітарызацыі Рэйнскай вобласці вырашыў, што знаходзіцца ў нейкіх містычных адносінах не толькі з людзьмі, але і з Богам. У яго прамовах сталі пераважаць псеўдарэлігійныя тэрміны. У ведамстве Гебельса пачалі рабіць спробы надаць Гітлеру рысы ўніверсальнага чалавечага месіі. Але хуткая вайна прымусіла адкласці гэтыя планы, вярнуцца да якіх ужо не давялося.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марына Парашэнка



Стала вядома, што жонка экс-прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі, лідара партыі «Еўрапейская салідарнасць», узначаліць спіс «Еўрапейскай салідарнасці» на выбарах у Кіеўскі савет, якія пройдуць у кастрычніку.

Выбар, на першы погляд, досыць дзіўны. Марына Парашэнка ў гады прэзідэнцтва мужа не ператварылася ў палітыка і не была яркай публічнай асобай. Звычайна яна маўкліва суправаджала мужа на афіцыйных мерапрыемствах. Не вельмі ўражвае і яе працоўная біяграфія, якая завяршылася адразу пасля заканчэння медыцынскага інстытута і нараджэння першага сына. Хутчэй, ёй уласцівы вобраз ідэальнай хатняй гаспадыні пры паспяховым бізнесмене, які цікавіцца палітыкай: яна, нагадаем, выхоўвае чацвярых дзяцей.

На думку экспертаў, адказ на пытанне, чаму Марына пайшла ў палітыку, трэба шукаць у Беларусі. Тут Святлана Ціханоўская неаднаразова падкрэслівала, што яна не палітык, а слабая жанчына — хатняя гаспадыня, якая ўвасабляе беларускі народ. Аказалася, што такі вобраз вельмі падабаецца выбаршчыку. Менавіта на вопыце Ціханоўскай робіць сабе імідж і Марына Парашэнка. У сваёй прамове на з'ездзе партыі «Еўрапейская салідарнасць» яна падкрэсліла, што ідзе на выбары як простая жанчына.

Пётр Парашэнка, уключыўшы сваю жонку ў палітычную барацьбу за Кіеў, робіць стаўку на сучасны гендарны трэнд. Паглядзім, што атрымаецца, але нагадаем, што яшчэ ні разу ў гісторыі Украіны жанчына не ўзначальвала Кіеў і не была кіраўніцай кіеўскай рады.

### Фрыдрых Мерц



Прэтэндэнт нумар адзін на тое, каб заняць месца Ангелы Меркель пасля яе сыходу на пенсію ў наступным годзе, магчыма, быў «кандыдатам нумар адзін» учора. Усё праз скандал з яго выказваннямі наконт гомасексуалізму.

У інтэрв'ю газеце Bild на пытанне, ці ёсць у яго забабоны на гэты конт, кандыдат на пасаду старшыні Хрысціянска-дэмакратычнага саюза (CDU) спачатку адказаў «не». А потым дадаў, што «сексуальная арыентацыя не хвалюе грамадскасць, пакуль яна знаходзіцца ў рамках закона і пакуль яна не закранае дзяцей».

Гэтую фразу многія інтэрпрэтавалі як спробу прыраўняць гомасексуалістаў і педафілаў, што, нібыта, дыскрэдытуе сексуальныя меншасці. Мерца ўжо асудзілі аднапартыйцы, у тым ліку і міністр аховы здароўя Енс Шпан, які пабраўся шлюбам з мужчынам. Не могуць непакоіць Мерца і ацэнкі яго заявы з боку партый, якіх хрысціянскія дэмакраты разглядаюць як сябраў па будучай урадавай кааліцыі. Рэплікі Фрыдрыха ўжо асудзілі шэраг лідараў сацыял-дэмакратаў, ахарактарызаваўшы іх як «каменны век». А «Зялёныя» наогул ледзь не адкрыта заклікалі не дапусціць абрання Мерца на пасаду лідара партыі.

Цяпер Фрыдрых Мерц спрабуе неяк выкруціцца з сітуацыі, выстаўляючы сябе сябрам геяў. Часу на рэабілітацыю ў яго няшмат — выбары пераемніка Меркель адбудуцца ў снежні.

### Джасінда Ардэрн



Прэм'ер-міністр Новай Зеландыі, лідарка партыі лейбарыстаў, паўстала перад няпростым выбарам. Як прадстаўнік левай партыі, яна вымушана прыслухацца да меркавання карэннага народа, інтарэсы якога прадстаўляе Партыя маоры.

На думку кіраўніцтва партыі, прыйшоў час вярнуць краіне назву, якую яна насіла да прыходу брытанскіх каланізатараў. Тады цяперашняя Новая Зеландыя называлася «Аатэароа», што азначае «Краіна белых аблокаў». Прапануецца з гэтага часу называць краіну менавіта так. Гэтая ж партыя прапануе, каб Велінгтан, сталіца краіны, стаў называцца «Тыя Вангануі-а-Тара», што будзе актам прабачэння за часы каланіялізму.

Але такія прапановы шмат каму не падабаюцца. Намеснік Ардэн, віцэ-прэм'ер Уінстан Пітэрс, раскрытыкаваў план Партыі маоры. Ён лічыць, што карэнныя жыхары папросту хочуць прыцягнуць да сябе ўвагу.

Каб захаваць імідж прагрэсіўнага палітыка і адначасова не страціць традыцыйны электарат, прэм'ер вымушаная балансаваць, абмяжоўваючыся туманнымі заявамі. «Я ўсё больш і больш чую пра выкарыстанне Аатэароа як сіноніма Новай Зеландыі, і гэта станоўчы момант», — кажа палітык, не абяцаючы нічога канкрэтнага.

Галоўнае для Ардэрн — дацягнуць да 17 кастрычніка, калі адбудуцца парламенцкія выбары. Пасля выбараў тэма новай назвы для краіны, хутчэй за ўсё, на нейкі час страціць актуальнасць.

# Жах, які паўтарыўся



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Калі я даведаўся, як у жніўні затрымлівалі галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» Ягора Марціновіча ды кандыдата медыцынскіх навук, урача-рэаніматолага Андрэя Вітушку, то чамусьці адразу падумаў пра... беларускую мову. Так, згаданыя людзі ў жыцці ў асноўным размаўляюць на роднай мове, а гэта падчас пратэстаў для сілавікоў — як чырвоная ануча для быка.**




БССР, 1930-я гады

«У наступную секунду аўтаматчык кінуўся да мяне: "Выходим из машины!" Я паказаў пасведчанне журналіста, якому ён шчыра парадаваўся: "Наша Ніва? По-белорусссски говорим? В автозак! Бегом"», — апісваў момант затрымання 10 жніўня рэдактар газеты «Наша Ніва». Затрыманых у жніўні 2020-га на мінскіх вуліцах людзей пасля катаванняў закідвалі ў перапоўненыя камеры ізалятараў. Тут мне, гісторыку, згадаліся савецкія рэпрэсіі супраць жыхароў Беларусі ў 1930-я гады. Паралелі, як кажуць, напрошваюцца самі сабой. Праз падобныя выпрабаванні давялося прайсці нашым продкам падчас савецкіх рэпрэсій.

## Катаванні за матчыну мову

Жыхароў сучаснай Беларусі абурыла тая жорсткасць, з якой дзейнічалі супраць суграмадзян сілавікі. Асабліва людзей уразілі катаванні ў турмах. «Метады НКУС выкарыстоўваюць», — пісалі ў сацсетках шматлікія беларусы. І яны мелі рацыю.

«У памежжатрадзе ў Плешчаніцах, там дзе спарткомплекс, там жа ідыёты. [...] Усе панаехаўшыя. [...] Ноччу выклікаюць і пачынаюць здзекавацца. [...] На допыт прывозяць у Плешчаніцы, у гэтае КПЗ. [...] "Чым ты займаўся? Контррэвалюцыяй?" — "Беларускія часопісы чытаў, больш нічога не рабіў", — кажу. "Я і беларускія часопісы не чытаў". — "А чаму сценкі абклееныя?" — "Дык маці ж". [...] "Навошта ты іх прывозіў, навошта захоўваў". [...] Дзверы адчынілі. [...] "Сунь пальцы сюды". [...] Прыціснуў, так мне цёмна ў вачах стала. Я адразу ўпаў. Ён мне тады ботам. Зламаў рабро. "Паднімайся". А дзе тут паднімешся, зусім прытомнасць страціў. Потым сюды, у ключыцу. [...] Пальцы, толькі белыя костачкі тырчалі, астатняе ў дзвярах засталося», — узгадваў ахвяра сталінскіх рэпрэсій, ураджэнец вёскі Дзвінаса Плешчаніцкага (цяпер Лагойскага) раёна Пётр Красоўскі.

Яго арыштавалі ў траўні 1937 года. На момант арышту яму было 19 гадоў. Пятра Іванавіча абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі (вось чаму следчы «цікавіўся» беларускімі часопісамі) і прысудзілі да 10 гадоў лагерных прац.

У польскай газеце «Віленскі кур'ер» у 1937 годзе адзначалася: «Сёння ў Беларусі не выносяць тых грамадзян, якія добра валодаюць беларускай мовай у пісьме і гутарцы. Такіх прымаюць за рэшткі "нацдэмаўскага атрэб'я". Напрыклад, акадэмік беларускай Акадэміі навук спецыяльна стараецца гаварыць па-беларуску з памылкамі, каб партячэйка не падазравала яго ў нацыянал-дэмакратызме. Бяспечней выкарыстоўваць ва ўстановах і штодзённым жыцці рускую мову, чым беларускую».



Беларусы, 1930-я гады

## Уратавацца ў Саветах

Асобнай катэгорыяй рэпрэсаваных былі перабежчыкі з тэрыторыі Польшчы, якія апрыёры лічыліся бальшавіцкай уладай «агентамі польскай выведкі». «Потым да мяне падкінулі аднаго таксама перабежчыка. [...] Гадоў 20 яму было. І вось што. Яго паставілі на чацвёра сутак стаяць. На допыт водзяць, а потым прыводзяць — і ён стаіць. Ён дзесьці трое сутак адстаяў. Спухлі ў яго ногі. Ён хіснуўся і зваліўся. Згубіў прытомнасць. Наглядчык падбягае: "Паднімайся". Ён не паднімаецца. Як дасць яму наском у грудзі. А ён мёртвы! Ён ужо памёр, не вытрымаў стойкі, упаў і сканаў. Ён таксама перайшоў мяжу, як і я», — падкрэсліваў жыхар Докшыцкага раёна Міхаіл Гамановіч. За нелегальны пераход савецка-польскай мяжы ў 1938 годзе гэты чалавек быў асуджаны на тры гады лагернага зняволення.

16 ліпеня 1939 года савецкія памежнікі затрымалі на кардоне жыхара Старога Свержаня 25-гадовага Сцяпана Валовіча. 27 жніўня 1939 года яго абвінавацілі ў нелегальным пераходзе мяжы, шпіянажы на карысць Польшчы і прысудзілі да 10 гадоў лагерных прац. «Мы туды самі прыйшлі. Там стаяў жаўнер са штыком. "Стойце!" [...] І арыштавалі. На заставе ўжо ўзялі і падноскі адрывалі, глядзелі, ці не шпіён. [...] Павезлі ў Дзяржынск. У Дзяржынску можа тыдні два-тры. Білі моцна. [...] Ноччу на допыт. [...] Спаць не давалі. [...] Прымушалі падпісаць, што ішоў калгасы паліць. [...] На следстве: "Як ішоў, з кім? Як у Польшчы жыў?" Першапачаткова абвінавачвалі мяне, што ішоў узрываць масты. [...] У Дзяржынску білі па баках, у асноўным у жывот. Потым прыехаў "варанок", завезлі ў Мінск», — падкрэсліваў Сцяпан Валовіч.

## Перапоўненыя камеры ў 1940-м і 2020-м

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны вязнямі мінскіх турмаў сталі і шматлікія польскія грамадзяне, якія трапілі ў рукі чэкістаў пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР. 1 красавіка 1940 года ў турэмным вагоне з Баранавічаў у Мінск сярод іншых зняволеных прыбыў Канстанцін Рдултоўскі, фігура знакавая для паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай. Шляхціц нарадзіўся ў 1880 годзе ў маёнтку Чарнігаў-Горны на Навагрудчыне. У 1919–1920 гадах быў Баранавіцкім і Стаўбцоўскім павятовым старастам. У 1928-м Рдултоўскага абралі дэпутатам Сейма Другой Рэчы Паспалітай, а з 1930 па 1938 гады ён быў сенатарам ад Навагрудчыны. Тады ж шляхціц выконваў абавязкі кіраўніка Віленскай сельскагаспадарчай палаты. Адразу пасля ўсталявання савецкай улады ў Заходняй Беларусі «памешчыка» Рдултоўскага арыштавалі і трымалі ў турме НКУС у Баранавічах, а затым этапавалі ў Мінск.

Вось што ўзгадвалася ў яго дзённіку: «1 красавіка 1940 года. Каля 10–11 гадзін раніцы мы прыехалі ў Мінск. Нас вывелі з вагонаў і пасадзілі ў грузавыя машыны. Праехалі міма помніка Леніну, а каля касцёла Св. Сымона і Алены, пабудаванага калісьці Эдвардам Вайніловічам, грузавік рэзка павярнуў налева, і неўзабаве мы апынуліся каля старой турмы. Сярод тых, хто ехаў са мной, было шмат знаёмых з Гродна і Ваўкавыска. Нас правялі на апошні паверх, і 120 чалавек змясцілі ў адну камеру. Людзі думалі, што гэта на некаторы час. Аказалася, што назаўсёды. На кожнага чалавека прыходзілася прыкладна 40 сантыметраў вольнага месца. Было горача, не хапала паветра. Пазней нас сталі выводзіць на прагулкі. Кармілі хлебам і вадой, з нейкай травой. Наглядчыкі называлі гэта пітво «чай». Сярод зняволеных было шмат землеўладальнікаў, асаднікаў, паліцыянтаў, афіцэраў Войска Польскага. Зняволеныя казалі, што ў суседняй камеры сядзелі некалькі польскіх генералаў. Пад нашай камерай знаходзіліся кабінеты следчых, дзе арыштаваных дапытвалі. Часта адтуль даносіліся крыкі. Некаторыя са зняволеных не вытрымлівалі збіцця, вар'яцелі. Часта арыштантаў выклікалі з камеры «з рэчамі». Больш мы гэтых людзей не бачылі. На іх месца прыводзілі новых вязняў. Праз два тыдні пасля знаходжання ў турме мне зачыталі прысуд. За тое, што я быў землеўладальнікам і «эксплуатаваў» 111 чалавек, мяне прысудзілі да 8 гадоў папраўчых работ».

А цяпер вернемся ў год 2020-ты ды ўзгадаем словы Андрэя Вітушкі пра тое, што ў камеру, якая была разлічаная на 6 чалавек, размяшчалі ад 19 да 32 затрыманых. «Паўтара сутак нас не кармілі. Вада з-пад крану, якую можна было набраць у дзве пластыкавыя бутэлькі, з якіх пілі ўсе», — узгадваў Андрэй. Гісторыя 1940-га з кантынгентам з так званага «Беларускага катынскага спісу» паўтарылася. Дзякуй Богу, што часткова і з «хэпі-эндам».

...Мяне часта пытаюць шматлікія мае знаёмыя, чаму ж гэтая жудасць адбываецца ў сучаснай Беларусі — краіне, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Адказ просты. Мы не зрабілі высновы са сваёй цяжкай гісторыі і не разлічыліся са злачынствамі камуністычнай сістэмы. Доўгі час баяліся ўсяго нацыянальнага, патрыятычнага. А менавіта нацыянальны грунт дае магчымасць зрабіць крок ад «homo soveticus» да чалавека еўрапейскай фармацыі, які шануе сваю культуру, гісторыю, традыцыі і не дазваляе знішчаць усе гэта. Шчыра веру, што глыбокі аналіз трагедыі 1930-х гадоў дасць магчымасць усім нам зрабіць высновы на будучыню. Каб не паўтарыліся боль ды жахі Курапатаў ды Акрэсціна.

**Фота з архіву аўтара**



Супрацоўнікі НКУС, 1930-я гады




Фота Ірыны Арахоўскай, НЧ

**Не атрымалася давесці да падначаленых, што вулічная актыўнасць інспіраваная з Захаду, што ў дэманстрацыях удзельнічаюць спрэс праплачаныя наркаманы і прастытуткі? Што ж, тады даводзіцца ўкараняць новы падыход**

# Спартсменаў навучаць радзіму любіць

Сяргей КАЙКО

**Новыя правілы: ведаць гімн, выкарыстоўваць толькі дзяржаўную сімволіку, даваць інтэрв'ю толькі з дазволу працадаўцы. Беларускаму спорту рыхтуюць ідэалагічныя цуглі, якія наўрад ці натхняць атлетаў на добрыя вынікі.**

У беларускім спорце працягваецца закручванне гаек. Пасля шэрагу звальненняў і разнастайнага ціску ў высокіх кабінетах Мінспорту вынайшлі яшчэ адзін метад уздзеяння на грамадзянскую актыўнасць прадстаўнікоў галіны. Цяпер — бюракратычны, у выглядзе дадатковага пагаднення да дзеючых кантрактаў. Адпаведны загад за подпісам міністра Сяргея Кавальчука пратачыўся ў прэсу і, натуральна, выклікаў магутны фідбэк.

Гэта зразумела: ніколі раней такога ў нашым спорце не было. Але неўзабаве будзе — нешта кшталту тэсту на добранадзейнасць, які мусяць праходзіць беларускія атлеты, перш чым ісці спаборнічаць і здабываць славу ўлюбёнай бацькаўшчыне.

Згодна з новай пастановай, у хуткай будучыні спартсмены павінны мець на ўвазе наступнае. Па-першае, ім патрэбна «ведаць тэкст і музычную рэдакцыю Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, паважліва ставіцца да дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь». Па-другое, яны абавязаныя «выкарыстоўваць у час правядзення спартыўных спаборніцтваў толькі дзяржаўныя сімвалы Рэспублікі Беларусь, сімволіку спартыўнага спаборніцтва, зацверджаную арганізатарамі спаборніцтва і (альбо) сімволіку, прадугледжаную рэгламентам гэтага спаборніцтва». І, па-трэцяе, ім неабходна «не дапускаць публікацый і выступленняў у сродках масавай інфармацыі без узгаднення з наймальнікам».

Ад гэтага месца і далей паспрабуем зразумець, што гэта было і што з гэтага атрымаецца.

З першым, зрэшты, усё больш-менш ясна. Падчас сёлетніх палітычных падзей некаторыя спартсмены зусім адбіліся ад рук. Замест таго, каб трэніравацца і дзякаваць дзяржаве за трапяткі клопат і створаныя ўмовы, яны дазваляюць сабе крытыкаваць нашу квітнеючую рэчаіснасць. Вынікі прэзідэнцкіх выбараў ім не даспадобы. Яны абураюцца гвалтам у дачыненні да мірных пратэстоўцаў. Запісваюць відэаролікі з адпаведнымі заклікамі. Падчас футбольных матчаў могуць выйсці на поле з белымі стужкамі, а пасля забітага гола — нават беспакарана прадэманстраваць у тэлекамеры здрадніцкі жэст «віктары».

І як апафеоз антыдзяржаўнага блюзнерства — той самы знакаміты адкрыты ліст з патрабаваннем новай выбарчай кампаніі. Дарэчы, ліст жыве ў сецібе і працягвае збіраць подпісы. Іх там ужо амаль 600. Нягледзячы на ўсе актыўнасці ўпаўнаважаных органаў, якія спрабуюць збіць пратэстныя жарсці спартсменаў. Нягледзячы на запалохванні, пагрозы і іншы ціск, сведчанні пра якія лёгка знайсці ў інтэрнэце.

Ну і што ў такім выпадку рабіць профільнаму Міністэрству? Правільна: змагацца з іншадумствам далей. Не атрымалася давесці да падначаленых, што вулічная актыўнасць інспіравана з Захаду, што ў дэманстрацыях удзельнічаюць спрэс праплачаныя наркаманы і прастытуткі, а збеглая Святлана Ціханоўская — агент польскай разведкі? Што ж, тады даводзіцца ўкараняць новы падыход — на ўзроўні кантрактных абавязкаў. Каб у выпадку чаго мець яшчэ адзін рычаг уплыву на незадаволеных.

Такія прыкладна матывы ў галоўным спартыўным ведамстве краіны, але ці будуць яны працаваць? Давайце пройдземся па пунктах.

Веданне гімна. Як быццам, нічога дрэннага ў тым няма. Атлеты ўсіх краін свету спяваюць свае гімны і перад футбольнымі ці хакейнымі матчамі, і стоячы на п'едэстале з медалём на шыі. Гэта добра, бо робіць спорт чымсьці большым за спаборніцтвы на хуткасць і спрытнасць. Гэта сапраўды натхняе, але — калі ідзе ад душы, без аніякага прымусу. Без прапісанага ў кантракце абавязку ведаць «тэкст і музычную рэдакцыю».

Вельмі цікава, як будзе ажыццяўляцца кантроль за выкананнем гэтага пункту? Дэкламаваць тэкст гімна перад адмысловай камісіяй спартсмены будуць гэтак жа рэгулярна, як і праходзіць допінг-кантроль? А «легіянеры» як жа? Тыя, якімі нашпігаваныя нашыя зборныя, бо сваіх кваліфікаваных хлопцаў і дзяўчат мы так і не выгадавалі. Напрыклад, хакеісты Нік Бэйлен і Джэф Плат, прыязжаючы гуляць за Беларусь, пачнуць здаваць тэст на веданне гімна? А калі хтосьці, дэкламуючы, памыліцца? Забудзе трэці радок другога куплета? Яго тады не ўключаць у склад каманды і адправяць давучваць, каб ад зубоў адскоквала?..

**Ваша справа — як раней — трэніравацца, здабываць для краіны медалі і менш думаць пра тое, што адбываецца навокал. І тады — будзе вам шчасце. А як не — вось вам яшчэ адзін механізм, з дапамогай якога можна навучыць любові да радзімы**

Выкарыстоўваць падчас спаборніцтваў толькі дзяржаўныя сімвалы. Тут нібыта ўсё проста. Барані Бог табе засвяціцца на беговай дарожцы ці на лыжні з чымсьці бел-чырвона-белым. Атрымаеш па шапцы, згодна з дадаткам да працоўнага кантракта, і ніякі адвакат не дапаможа.

Аднак мы даўно жывём пры цяперашняй уладзе. Спартсмены і так гэтую рысу не пераходзяць, цудоўна ведаючы, якім бумерангам гэтыя дыверсійныя дзеянні могуць вярнуцца. Яны і сёння, у часы масавага грамадзянскага абуджэння, на самых нават максімалках з'яўляюцца ў тэлекамерах хіба што з белымі стужкамі ці з рукатворнымі жэстамі штаба Ціханоўскай перадвыбарчых тыдняў.

Цікава, ці варта гэтыя бяскрыўдныя перформансы залічваць за дэманстрацыю забароненай сімволікі? Сэрцайка, сканструяванае на пальцах — яго паказваюць у прамым тэлеэфіры нават футбалісты «Барселоны». Белы бранзалет на запясці — у баскетбалістаў, напрыклад, ён можа быць звычайным напульснікам, рэкамендаваным доктарам. Ці распаўсюджваецца новы міністэрскі загад на такія выпадкі? І ўвогуле, ці не паспяшалася Беларуская федэрацыя футбола, замовіўшы для нацыянальнай зборнай гульнявую форму ў белай і чырвонай каляровай гаме?

І трэці пункт ідэалагічных інавацый для спартсменаў — наконт выказванняў толькі з дазволу працадаўцы. Бадай, гэта самая дзівосная распрацоўка сярод усіх астатніх. І самая лёгкая для разумення.

Нашым атлетам элементарна хочуць забараніць гаварыць тое, пра што яны думаюць. Адсунем убок канстытуцыйнае права на свабоду слова — з базавымі каштоўнасцямі ў краіне і так усё зразумела. Засяродзімся на ўсведамленні таго, што цяпер любое інтэрв'ю ці каментар журналістам — толькі пасля санкцыі начальства. З адпаведнымі, відавочна, устаноўкамі, пра што казаць можна, а пра што — толькі паспрабуй.

Але падобна на тое, што і сацсеткі ад гэтага часу будуць падуладныя новым правілам гульні. Бо ледзьве нешта напіша ў Instagram умоўная Арына Сабаленка, Аляксандра Раманоўская ці Кацярына Сныціна, тое адразу з'яўляецца ў стужках навін СМІ. Сярод спартсменаў і спартсменак шмат такіх, хто посціць свае рэфлексіі рэгулярна і часта. У іх тысячы падпісчыкаў і фрэндаў — і тут слова вядомага чалавека дакладна не верабей. І што, хочучы выказацца на сваёй старонцы пра дзіўнае надвор'е ў гэтым верасні, трэба абавязкова атрымаць на гэта дазвол кіраўніцтва?

Зрэшты, хопіць фармуляваць рытарычныя пытанні і шукаць здаровы сэнс у цёмным пакоі, дзе няма аніякага чорнага ката. І так зразумела, для чаго вынайдзены гэтыя новыя юрыдычныя новаўтварэнні. Калі коратка, то ніхто не будзе іх выконваць скрупулёзна. Падаецца, гэта не нормы права, бо з правамі ў краіне праблемы. Гэта проста меседж — з намёкам на адвольнае правапрымяненне.

Хочаш нешта сказаць у інтэрв'ю? Ды гавары, якія пытанні. Хочаш запосціць у Facebook прыгожы пейзаж? Посці колькі заўгодна, і нават дазволу не пытай, не адцягвай сур'ёзных людзей ад плённай працы на карысць дзяржавы. Крыху сцерліся ў памяці словы гімна — не бяда, з кім не бывае. Наўрад ці самі спартыўныя чыноўнікі беспамылкова працытуюць яго тэкст.

Меседж мае вельмі просты і даходлівы сэнс — не лезьце ў палітыку, хлопцы і дзяўчаты. Ваша справа — як раней — трэніравацца, здабываць для краіны медалі і менш думаць пра тое, што адбываецца навокал. І тады — будзе вам шчасце. А як не — вось вам яшчэ адзін механізм, з дапамогай якога можна навучыць любові да радзімы.

Цяпер згаданыя дадаткі да кантрактаў спартсмены мусяць падпісаць, і гэтая прапанова падаецца такой, ад якой немагчыма адмовіцца. Як яно будзе на справе, хто ведае. Але што можна сцвярджаць дакладна, наўрад ці новыя правілы дададуць беларускім атлетам імпэту ў прафесійнай дзейнасці. Заўтра яны, вядома, паедуць на чэмпіянаты свету і Еўропы, на Алімпійскія гульні. Паедуць з амбіцыйнымі намерамі і абяцанымі прэміяльнымі.

Праўда, як даўно заўважана, для сапраўднага спартыўнага подзвігу неабходны асаблівы настрой, крылы за плячыма і адданасць на мяжы самаахвярнасці. А крылы нашым атлетам працягваць адчувальна падрэзаць.



# БагатаДата

**На тыдні 30 гадоў спаўняецца праграме развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі. Мы верым, што яна, безумоўна, вернецца. І вернецца хутка.**

## 26 верасня

**Еўрапейскі дзень мовы і Сусветны дзень кантрацэпцыі.**

**1910.** У Архангельску нарадзіўся беларускі савецкі спартовец Барыс Бальшакоў (раварыст і канькабежац). На чэмпіянатах СССР заваяваў 19 медалёў. Затым працаваў у Мінску трэнерам.

**1925.** У Маскве нарадзіўся беларускі пісьменнік і перакладчык Навум Кіслік. Пераклаў на рускую мову такія творы беларускай літаратуры, як «Людзі на балоце» Івана Мележа, «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча, зборнік паэзіі Янкі Купалы.

## 27 верасня

**Дзень машынабудаўніка, Сусветны дзень турызму і Міжнародны дзень глухіх.**

## 28 верасня

**Сусветны дзень барацьбы супраць шаленства.**

**1990.** Савет міністраў зацвердзіў Праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларусі, складзеную на падставе Закона аб мовах, які быў прыняты Вярхоўным Саветам у студзені. Праграма прадугледжвала паступова пераход ва ўсіх сферах жыцця на беларускую мову. Згорнута ажыццяўленне Праграмы развіцця мовы было праз рэферэндум 1995 года, ініцыяваны Лукашэнкам.

## 29 верасня

**1955.** У горадзе Сянно на Віцебшчыне нарадзіўся акцёр і грамадска-палітычны дзеяч Генадзь Давыдзька. Шмат гадоў працаваў у Купалаўскім тэатры — ад акцёра да дырэктара. Здымаўся ў фільмах. Быў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. Кіраваў Белтэлерадыёкампаніяй. Цяпер на чале грамадскага аб'яднання «Белая Русь», якое падтрымлівае Лукашэнку.

## 30 верасня

**Міжнародны дзень перакладчыка.**

## 1 кастрычніка

**Міжнародныя дні музыкі і людзей сталага веку,** а таксама **Сусветны дзень вегетарыянства.**

**1930.** На базе опернага класа Беларускага музычнага тэхнікуму ўтварылася Беларуская студыя оперы і балета. Пасля шэрагу рэарганізацый і перайменаванняў цяпер гэта Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**1940.** У пасёлку Капаткевічы Петрыкаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся вядомы беларускі юрыст Валерый Ціхіня. Спрычыніўся да значных палітычных падзеяў у незалежнай Беларусі. У 1980-х гадах кіраваў юрыдычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта, а затым быў яго прарэктарам. У 1989 годзе стаў міністрам юстыцыі БССР. У першай палове 1990-х — дэпутат Вярхоўнага Савета, намеснік старшыні Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, старшыня Канстытуцыйнага суда. Менавіта пры старшынаванні Ціхіні 1996 годзе, падчас учыненага Лукашэнкам рэферэндумнага дзяржперавароту, Канстытуцыйны суд распачаў, а потым спыніў справу праву «Аб парушэнні прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь». Менавіта Ціхіня, а не Лукашэнка, як той сцвярджаў, галасаваў у Вярхоўным Савеце супраць ратыфікацыі Белавежскіх пагадненняў аб распадзе СССР.

## 2 кастрычніка

**Міжнародныя дні негвалтоўнасці і сацыяльнага педагога.**

**1905.** Пачаўся адзін са страйкаў супрацоўнікаў мінскай конкі — коннай чыгункі. Прычынай стала нявыдача ім, насуперак дамоўленасцям, зімовай вопраткі. Пасярэднікам на перамовах паміж бізнесам і вазніцамі спрабавала стаць гарадская адміністрацыя. У выніку гаспадары конкі набралі новы штат, але жыхары Мінска арганізавалі байкот — вагоны хадзілі пустымі. Рух конкі аднавіўся толькі ў пачатку снежня.

**1965.** У Мінску нарадзіўся беларускі музыка і збіральнік фальклору Зміцер Сідаровіч. Творчы кіраўнік гурту «Камелот», дастаткова папулярнага ў 1990-х гадах.

**1990.** Выйшаў першы нумар друкаванага выдання Вярхоўнага Савета — «Народная газета». Галоўным рэдактарам быў Іосіф Сярэдзіч, цяперашні галоўрэд «Народнай волі».

**Падрыхтаваў**
**Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1603

Падпісана да друку 24.09.2020. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.